# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

МЕСЯЧНІК БЕЛАРУСКАГА
СТУДЭНСТВА У ВІЛЬНІ.

№ 4 (5). ТРАВЕНЬ.—ЧЕРВЕНЬ. ГОД II.

1925 г.

ВІЛЬНЯ.
Друкарня М. Левін і Сын, Нямецкая вул. 22.
1925.

# ЗЬМЕСТ.

# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

Грамадзка - навуковы і літэратурны месячнік Беларускага Студэнства.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская вул. 12, 6.

Падпіска квартальна з перасылкай . 3 зл.
Цана асобнага нумару . . . . . . . 1 зл.

№ 4 (5) 1925, ТРАВЕНЬ, ЧЭРВЕНЬ. ГОД II.

## „Праблема беларускага места“

Творчасьць Янкі Купалы — зусім асаблівага роду. Як паэзія Пушкіна, ці вельмі нялічных першых нацыянальных паэтаў, мае, так сказаць, сынкрэтычна-праграмны характар.

Як першае спатканьне, першая арганічна, душэўна - крывавая сутычка дапяўшага вышыні сьведамасьці нацыянальнага гэнія з зусім агромам, з усей зложанасьцю варункаў і абставінаў, задачаў і імкненьняў народнага жыцьця, душэўная акцыя нацыянальнага паэта ахоплівае надлюдзкім — „рамантычным“ — высілкам кахаючага і балеючага сэрца ўвесь, гэты агром, вытварае, кіруючыся, можа ня гэтулькі сьведамай думкай, колькі падсьведамым магутным творчым інстынктам, рад мастацкіх чалавечых абразоў, у якіх ня толькі праўдзіва адбіваецца ўся зложанасьць жыцьцёвых абставінаў народу, ня толькі дае, калі прыглядзецца глыбей, цэлы рад неабмыльных інтуіцыяў — дыягнозаў нацыянальнай хваробы народу, але паказвае з тэйжа неабмыльнасьцю — і шляхі і мэтады — сцаленьня...

Запраўды — аналітычна кажучы, нацыянальнае пытаньне для кожнага народу — толькі пытаньне тых нормаў народнай гігіены, якія так, ці інакш гістарычна нарушаны, і якія жывая актыўная нацыянальная сьведамасьць — у якіх бы галінах дзеяльнасьці яна ні выяўлялася, якімі-б прыладамі і срэдствамі чалавечага гэнія яна ні выражалася — імкнецца адбудаваць.

Дык мы лёгка зразумеем, што і паэтыцкая творчасьць толькі з таго мамэнту становіцца ў сэнсі нацыянальным, калі —1) яго безпасярэднія мастацкія інтуіцыі нарушанай гігіены народнага жыцьця дасягаюць аб'ектыўнай „мастацкай запраўднасьці“, а 2) што, можа

яшчэ важней, — калі сама гэтая творчасьць паэта робіцца сілай sui generis, адбудоўваючай здароўе нацыі...

Дык мы бачым, што, запраўды, вялікі нацыянальны паэт ня толькі кажа народу, можа-б, забіўшую жахам і жудой праўду аб яго хваробе, ня толкі паказвае яму шлях да сцаленьня, але, як, запраўды, цудатворац, дае народу сілу ісьці гэтым шляхам — да здароўя...

Дык вось і наш Купала — у гэтым поўным і глыбокім значаньні наш першы запраўдны нацыянальны паэт — бо ён першы ня толькі даў нам сыстэму неабмыльных, гэніальных інтуіцыяў, даў беспярэчны —бо мастацкі — ідавочны дыягноз усіх аснаўных праблемаў нашага нацыянальнага здароўя: ён першы пературыў і паэтыцкае слова ў найвялікшую сілу, ў наймагутнейшае срэдства нацыянальнага сама-аздраўленьня...

Пагледзім, як гэтая характэрыстыка паэта апраўдываецца на аднэй з найвялейшых праблемаў беларускага жыцьця.

---

Беларускі народ — народ земляроб. Беларусь — чыста аграрны край. — Дык усім беларускім ідэалёгічным павадыром ідэал Беларусі рысуецца, як самастойнае — чыста сялянскае царства.

Амаль ня ўсе нашы песьняры і пісьменьнікі рысуюць нам жыцьцё сяляніна-хлебароба, яго болі і жалі, думкі і лятуценьні — аб долі.

Зьмест гэтай — сялянскай долі — добра ведамы кожнаму, і найкарацей можа быць сфармуляваны ў знамянітым лёзунгу сусьветнага сялянства — „зямля і воля“.

Статыстыка Беларусі выразна кажа аб тым, што гэткая ідэалёгія мае беспярэчныя матэматычныя падставы.

Калі возьмем толькі статыстычныя лічбы бліжэйшай да нас Заходняй Беларусі, дык і тут, нават, у найбольш „Эўрапейскай“ частцы Беларусі паражае самое разьвіцьцё места ў параўнаньні з вёскай.

Перадусім, як найбольш агульнае і яркае выражэньне гэтай „вясковасьці“ краю наагул стаіць лічба сярэдняй гушчыні насяленьня, якая перад вайной (па даным 1911 — 1912 гг.) была больш-менш роўнай 40 — 50 чалавек на 1 кв. кілёмэтр. Толькі былая Менская губ. мела значна ніжэйшую гушчыню—каля 30. Дык гэтая гушчыня, вярней—рэдкасьць насяленьня ясна паказвае на слабасьць мястовага жыцьця, бо нармальна месты зьяўляюцца якраз тымі „згусткамі“, тымі новымі, больш скандэнсаванымі формамі — крысталамі — вытвараючыміся сярод разліўшагася па шырокім прасторы краю людзкага басэйну, якому ўжо цесна робіцца ў яго абмяжаваных берагох, якога ўжо ня можа пракарміць і задаволіць тая прымітыўная — (першая) праца на ральлі. На жаль і гэтая нізкая перадваенная лічба аказваецца за высокай для пасьляваеннай гушчыні.

Нават, для гусьцейшая Заходняе Беларусі новая польская статыстыка дае шмат ніжэйшыя лічбы. — Калі ўзяць 27 беларускіх паветаў Горадзеншчыны, Навагрудчыны, Віленшчыны і Палесься, дык на прасторы 98. 815 кілёмэтраў акажацца ўсяго жыхароў — у 398

вясковых гмінах і 82 местах, а больш мястэчках — 3.171.672, што дае на кв. клм. толькі 32,1 чалавека...

Сама па сябе страшная гэтая лічба кажа ня толькі аб тым, што за апошнія 10 гадоў усялякага роду вайнаў (да часу польскіх перапісяў 1919 і 1921 гг.) нясяленьне Заходняй Беларусі ня толькі не павялічылася ў парадку натуральнага прыросту, — але яшчэ і зьменшылася, — дый што найменш на цэлы мільён жыхароў...

З нашага пункту гледжаньня гэтая лічба кажа і аб тым, што натуральны працэс згушчэньня насяленьня, які павінен вытвараць узрост местаў, вытвараць новыя, больш інтэнсыўныя формы жыцьця і працы, у Заходняй Беларусі за ўсе гэтыя 10 гадоў ішоў, а мо' ідзе і надалей — у адваротным напрамку.

Нават, найбольш культурна-слабыя, прымітіўныя краіны, Заходняй Эўропы, як Румынія, ці Баўгарыя, краіны чыста аграрныя, значна перавышаюць цяпер Заходнюю Беларусь гэтай асноўной, падставовай, — матэматычна - точнай характэрыстыкай краю. Румынія мае 55.6 (перад вайной, урэшці ў іншых межах, мела 45,), Баўгарыя мае 42.6, (перад вайной мела 42)—жыхароў на 1 кв. клм. На гэтым вялікім абшары Заходняй Беларусі, вялікшым ад Партугаліі, большым за Эстонію і Літву, узятых разам, толькі 22 места і мястэчка, маючых 5.000 жыхароў.

Але ў аналізе чыста ці шмат пераважаючага аграрнага складу нашага Краю трэба пайсьці яшчэ глыбей. Паглядзім на агульныя лічбы насяленьня вёскі і места — ў бліжэйшай да нас Заходняй Беларусі.

Дык тут нам статыстыка скажа нешта надзвычайна-цікавае і важнае; у гэтым якраз — увесь цэнтр пытаньня.

Усяго ў местах жыве ў Заходняй Беларусі 580.000 жыхароў, ці трошкі больш як $18^0/_0$ агулу насяленьня Краю. Гэта значыць, што Беларусь наша — амаль не $^4/_5$ вясковы край, — тое самае „сялянскае царства“, аб якім кажа, як паэтычная, так і сацыяльна-палітычная ідэалёгія Беларуса. Аднак-жа, астаецца яшчэ таксама матэматычна паглядзець, хто-ж тут царом у гэтым „салянскім царстве“.

Перадусім трэба сьцьвердзіць, што галоўным вывадам з гэтых лічбаў аб вёсцы і месьце краю будзе той, што Беларусу—сяляніну, запраўды, няма ходу ані выхаду.

Места Заходняй Беларусі, апрача сваей слабасьці лічбовай, мае яшчэ іншую рысу. Беларускае места, калі ня лічыць больш-менш разьвітага фабрычнага райёну Беластоцкага і вельмі слабога Віленскага, амаль зусім ня мае прамысловага характару, які мае, нават, польскае места—ў этнаграфічнай Польшчы. Беларускае места, гэта пераважна, ці выключна—адміністрацыйны цэнтр, ці тарговы асяродак, які толькі паразытам-пасрэднікам сядзіць на вясковым, сялянскім масіве Краю. А з гэтага вывад той, што сяляніну ў Заходняй Беларусі, запраўды, пакуль што няма ніякага іншага ходу ані выхаду ад зямлі—бо ў месьце ня мае ніякага прылажэньня яго рабочая сіла. Усю сваю натуральную энэргію з яе чалавечым прыростам сялянін па-

віней пакуль што разьмяшчаць толькі ў тым-жа натуральным зямельным басэйне, на які ён мае перадусім бяспярэчнае і неад'емнае права, як адвечны валадар—земляроб Краю.

Места Заходняй Беларусі эканамічна зачынена для беларускага сяляніна, як тавары ш—супрацоўнік. Места для яго істнуе толькі як рынак напалову-ашуканскай, крыўднай куплі-прадажы, ці як асяродак, нейкай няведамай яму дакладна улады, у якой ён неабмыльным інстынктам і ўжо—на зусім ясным і точным досьледзе—чуе чужую сілу.

Адсутнасьць прамысловага места ў Краі стварае той, можа, найважнейшы сацыяльны факт у жыцьці беларускага сяляніна ў Польшчы, што ў месьце сваім ён ня мае, нават, таго свайго таварыша і саюзьніка, якога мае польскі сялянін у асобе мястовага фабрычна-заводзкага пралетарыяту — мае кожнае сялянства прамыслова-аграрнага краю...

Беларускі сялянін Заходняй Беларусі—сацыяльна зусім адзінокі, пакінуты, разьлічваючы зусім сам на сябе — у сваей сацыяльнай барацьбе, прынамся, у тых межах, якія істнуюць цяпер. Выжнасьць гэтага сацыяльнага адзіноцтва лёгка ацэніць той, хто хоць крыху прыглядзіцца да лёсу і стану беларускага сялянства ў Польшчы.

Але страшэнае сацыяльнае адзіноцтва беларускага сяляніна ў Польшчы аслажняецца і пагаршаецца, а мо' ў значнай меры і тлумачыцца, яшчэ іншым з'явішчам, якое таксама паддаецца матэматычнаму выражэньню...

Места ў Заходняй Беларусі мае яшчэ адну характэрную рысу, якая робіць яшчэ больш цяжкім лёс, яшчэ больш безнадзейнымі пэрспэктывы сацыяльнай барацьбы беларускай вёскі — за волю і лепшую долю.

Паводле падлічэньняў, на падставе польскай ўрадовай статыстыкі, на 580.000 мястовых жыхароў, толькі штосьць 87,000, ці толькі 15°/° належаць да беларускай нацыянальнасьці. Рэшта мястовага насяленьня Заходняй Беларусі—чужынцы.

Здаецца, гэткага дзіўнага зьявішча ня мае ані вадзін край на сьвеце, дзе наагул, як мы казалі, места вытваралася, як натуральная, перадусім экачамічна-выклікаНая кандэнсацыя сялянскага расчыну краю...

Гэты цікавы працэс нясталага, няспыніўшагася яшчэ жывога працэсу кандэнсацыі, яго „рухомай раўнавагі",— так сказаць, плыннага стану места—даны ў цікавым нарысе расейска-украінскага пісьменьніка Караленкі, пад загалоўкам „Незапраўднае места" (Ненастоящій город). У гэткім сваім уласным, нацыянальна-аднародным з чалавечым басэйнам краі—месьце заўсёды істнуе жывы абмен сокаў, жывых сілаў, чалавечых клетак,— істнуе жывая, першародная, скажам, нават, біалёгічна-рэлігійная сувязь, якая можа вытрымаць, нават, вялікую і вельмі напружаную варожасьць сацыяльных антаганізмаў... Гэткае свае ўласнае места — прынцыпова заўсёды астаецца таварышам і памоцнікам вёскі ў яе барацьбе з усімі відамі і родамі ворагаў.

І вось такога места — свайго, нацыянальна-роднага па крыві і па духу беларуская вёска ня мае... Нашыя месты, як паўсюды на Захадзе, — больш моцныя, больш „настоящія“, чым на тым расейскім Усходзе, які апісваў Караленка (Вятская губ.). Нашыя месты, — старыя, пусьціўшыя глыбокія караньні, але, на жаль, нашае места — „незапраўднае места“ ў іншым, можа, яшчэ больш сумным, больш трагічным для Беларуса-гаспадара Краю сенсі:

**„Беларускае“ места перадусім не Беларускае.**

Беларускае места захоплена аддаўна наплыўшымі элемэнтамі — Палякамі, Жыдамі, Расейцамі... У месьце Заходняй Беларусі — каля 35% Палякоў, каля 50% Жыдоў. Толькі Расейцаў, з падзеньнем іх улады над Краем, асталася нязначная доля... Беларускае места толькі на 1/7 належыць да адвечнага дэмакратычнага гаспадара Краю, а на 6/7 — у шчэпкіх руках — нацыянальна-варожых, або ў лепшым выпадку — халодна і безнадзейна-раўнадушных чужынцаў...

Вось мо' найбольш важны — бо кардынальны, бо прымітыўна-біалёгічны, факт, аснаўны грунт, — сацыяльнай і ўсей эканамічнай і палітычнай „адбудовы“ краю...

Дык ня дзіва, што ўся беларуская ідэалёгія ўсялякіх формаў і выразаў — „выключна сялянская“... Але трэба яшчэ добра паглядзець, ці дапраўды варта з гэтай трагічна-сумнай „канешнасьці“ рабіць — паводле вядомай нямецкай пагаворкі — „трыўмфуючую“ сялянскую **„дабрадзецель“** (цнату).

---

Каб ацаніць ўсю вялізарную вагу, гэтую трагічную нядолю гэтага кардынальнага факту будовы нашага Краю, трэба ведаць, што наагул на ўсім сьвеце, пакуль што, места кіруе і ўпраўляе краем якбы ні было яно слабое з усіх бакоў, яно заўсёды неяк мацней і заўсёды патрапіць захапіць і ўтрымаць уладу над вёскай...

Вось цэнтральны і ўнівэрсальны факт сучаснай будовы сьвету. Каб не пашырацца вельмі над гэтым відавочным і беспярэчным фактам, прыпомнім толькі, што места трымае ў сваіх руках усе кіруючыя ўстановы адміністрацыі краю; места трымае ў сваіх казармах войска, у сваіх арсэналах склады амуніцыі; места трымае ў сваіх межах, ці пабліж сябе, усю галоўную прамысловасьць краю, без якой сучасная вёска зусім ня можа абыйсьціся. Каб доўга не пералічваць усіх тых тавараў, якімі эканамічна трымае места ў руках вёску, даволі назваць **соль і жалеза**, ня кажучы ўжо пра нафту, дзякуючы якім места, запраўды, можа трымаць у залежнасьці ад сябе — вёску.

Места — перадўсім і агульна кажучы — галоўны склад усіх запасаў, усіх вырабаў — усіх, як кажуць, рухомых капіталаў краю... Вёска, маючая больш „нярухомасьцяў“, мае больш і **нярухомасьці, — мае менш тэй магчымасьці руху**, якая зьяўляецца ў біалёгічнай, дый ў сацыяльнай барацьбе, як і на вайне, — найбольш важным шансам перамогі... У кожнай барацьбе, у кожнай вайне — ў тых новых, закрытых сучаснай культурай ў сваёй першабытнай і іс-

тотнай зьвярынасьці, формаў, у якіх яна вядзецца цяпер, места мае **незьмерна больш як ініцыятывы**, так і **срэдстваў і спосабаў — перамогі**, ашуканьня, паняволеньня вёскі... На ўсім сьвеце, пакуль што, места палітычна кіруе вёскай, эканамічна яе эксплёатуючы... Места ў значнай меры дыктуе вёсцы сваю волю, свае, выгадныя яму, варункі жыцьця, разьвіцьця і працы...

Разумнае свае места ведае толькі, што ёсьць пэўны рубеж яго дыктатуры і эксплёатацыі... Вёска мае ў сваіх руках краёвы хлеб, без якога нармальна места ня можа абыйсьціся. Вёска мае яшчэ нармальна і **вялікую большасьць людзкога басэйну краю.**

Вёска пастаўляе вялікую большасьць арміі і паліцыі; без яе няма гэтай фізычнай апоры, фізычнага апарату ўлады места.

Калі трэскаецца напружаная цярплівасьць вёскі, яе пасыўнасьць яе прынцыповая **„нярухомасьць“** ператвараецца ў катастрафічны рух і ўзрыў адчаю, — у тыя страшэнныя „сялянскія войны“, 400-лецьце якіх у Нямеччына памінаецца цяпер ува ўсіх сялянскіх краёх... Вёска мае гэтую дрэмлючую і паняволеную стыхійную, выбуховую сілу, якой так баіцца разумнае і свае места, але якую лятуціць **„зьніштожыць назаўсёды“** чужое і неразумнае... Яркім доказам таго, што можа нарабіць варожаму, блудна-эгаістычнаму, але, перадусім, безнадзейна-дурному месту, стыхійна паўстаўшая вёска, служыць разваліўшаяся „мястовая Расея“... Але з другога боку няменш яркім довадам сілы места зьяўляецца тое, што, нават, там здалеў захапіць уладу і ўтрымаць яе праз увесь час страшэнных падзеяў рэвалюцыі — прадстаўнік **места** — пралетарыят, якога там — ня больш $10^0/_0$ сярод 150-мільённага сялянскага мора...

---

Вось што значыць места, якую роль яно йграе ў палітычным жыцьці краю. Што-б ні рабіла вёска якую-б „чыста сялянскую“ канстытуцыю ні пісалі яе прадстаўнікі ў устанўчых соймах, колькі-б іх ні было ў парлямэнтах, заўсёды праўдную ўладу будзе мець у краі места,—нават, у найбольш аграрным краі...

Дык пасьля гэтага можна сабе добра ўцяміць, што страціла Заходняя Беларусь, ня маючы ўласнага места, а датаго яшчэ маючы места ня толькі палітычна і сацыяльна, але нацыянальна чужое і біалёгічна варожае...

---

Дык няўжо-ж беларускі народ — на вяршынах, прынамся, сваей сьведамасьці — ў творчасьці сваіх паэтаў-ідэалёгаў — не адчуў і не зразумеў усей трагічнасьці гэтай прынцыпова-блуднай будовы свайго Краю. Няўжо-ж ён—не пачуў нейкага, моў ня зусім яснага, але прынамся ў імгліста-нудзячых напалову-сьведамых абразох — паўстаючай з гэтай нясьцярпіма трагічнай сучаснасьці вялізарнага значэньня і зьместу праблемы будучага?!

Даволі правільна паставіць гэтае пытаньне, каб адказ на яго зьявіўся сам сабой. Варочаючыся да пачатку нашай зацемкі, можам сказаць, што ня быў-бы той паэт, запраўды, першым і вялікім нацыя-

нальным паэтам, які-б ня толькі не адчуў гэтай першай нацыянальнай трагэдыі Беларусі, але і не паставіў-бы зусім выразна праблему — **завяяваньня беларускім народам места ў Беларусі...**

Мы тутака можам толькі фармуляваць тэтую праблему, паказаць вялізарныя труднасьці яе разьвязаньня, вялізарны размах і маштаб тэтай пастаўленай ужо даўно беларускім гэніям задачы.

Калі Якуб Колас можа быць названы, амаль ня выключна, клясычным паэтам-ідэалёгам яснай і беспярэчнай сялянскай Баларусі, дык Янка Купала, як **найбольш унівэрсальный гэній Беларускага народу**, яго запраўдны вялікі нацыянальны паэт, зьмяшчае ў сабе ня толькі тое, што было і што ёсьць, — усю, так сказаць „нацыянальную гатоўку“ Беларускага народу, але трымае і выяўляе ў нетрах свайго — рамантычна-шырокім ахватам па матчынаму кахаючага і балеючага сэрца — і ўсю бязьмежную і яшчэ праблематычную **будучыну** роднага народу выяўляе ў тых рамантычных абразох — сяменьнях і зярнятах — паэтычнага аткравеньня, якія предстаўляюць запраўдную — заложаную самым тварцом у душу народу — **праграму яго прышлага жыцьця...** Дык пабач з характэрнай для чыста сялянскай ідэалёгіі— двойцы „зямля і воля“ Купала цадае яшчэ і трэйцюю „іпостась“ мястовую і палітычную ўладу („Сон на Кургане“ і інш.).

Агляд гэтага „мястовага напрамку“, гэтага „імкненьня ў места“, сяганьне па ўладу на яго і яе заваяваньне — пасля Купалы ўсё расьце і мацнее ў нашай літэратуры.

Дэтальны агляд яго — рэч асобнай працы. Тут мы толькі сьцверджаем наагул як важнасьць праблемы, так і зразуменьне яе ў нашай літэратуры.

Прага. **Д.**

# Праф. Карскі аб беларускай мове.

Гэты цэнны матэрьял рэд. „Студ. Дум.“ атрымала ад п. п. Г. Леучыка, як пратэст проціў слоў п. А. Галынца, высказаўшагася у арт. „Аб аргумантах ад розуму і аб аргум. ад сэрца“, што, быццам праф. Карскі высказваўся не на карысьць беларускае мовы.

Прафэсар Е. О. Карскі сваю працу: „Што такое старая заходняруская гаворка“ пачынае так:

„Як калі-небудзь, то асабліва на архэалёгічным з'ездзі ў месце Вільні выпадае заняцца разгледжаньнем долі тае мовы, каторая ў працягу некалькіх стогодзьдзяў была органам маральнага, разумовага і палітычнага жыцьця народу ў Вялікім Княжстве Літоўскім; гэты разгляд асабліва на мейсцы цяпер, таму што тут сабрана маса рэчавых даных гэтай мовы, а ў навуцы падгатавана нямала цікавых ма-

тэр'ялаў, асьвятляючых розныя яе бакі. Яшчэ некаторыя пабочныя повады змушаюць заняцца даным пытаньнем: гэта тыя разнародныя погляды, каторыя нярэдка чуецца і чытаецца аб гэтай мове". Далей Карскі ўспамінае і разбірае Фр. Скарыну — яго Біблію і др.; Васіля Цяпінскага — яго эвангельле з 1570 г.; Рыгора Ходкевіча — яго вучыцельн. эвангельле з 1569 г.; Лаўрэнція Зіданія — слоўнік 1653 г.; В. Linde; Ярашэвіча; Рагальскага, Чэчата і др. — Далей на стар. 3-й кажа: „Раней чым прыступіць да разгляду пералічаных поглядаў, пазнаёмімся з асаблівасьцямі як старой заходня-рускай гаворкі, так і сучаснай беларускай". Тут ён разьбірае гукі і зыкі нашай мовы - старай і новай. Далей на стар. 5-ай ён кажа: „Вось агулам глаўнейшыя рысы старой заходня-рускай гаворкі, але-ж яны, як можна было бачыць зьяўляюцца характэрнымі рысамі і сучасных беларускіх гаворак. Дакладна закранулі мы гэтае пытаньне ў творах: „Агляд гукаў і формаў беларускае мовы" (Масква 1886 г.) і „Да гісторыі гукаў і формаў беларускае мовы" (Варшава 1893 г.),

Потым ён характэрызуе:

„Гранічучы з поўдня з украінскімі гаворкамі, з усходу і поўначы з вялікарускімі, а з захаду з польскай і часткава з літоўскай, старая заходня-руская гаворка, як і цяперашнія беларускія ,часам успрыймала ў сябе асаблівасьці суседзяў, каторыя ў тэй ці іншай ступені пашыраліся па надмененых ваколіцах. Па старых актах можна, нават, прасачыць у які бок той рух ішоў.

У тых мясцох, дзе цяпер ужо чуваць украінскую мову, у XVI ст. яшчэ пішуць акты ў чыстай заходня-рускай гаворцы; наадварот, на поўначы, дзе цяпер пануе беларуская мова, у старадаўных актах знаходзім асаблівасьці ня чыста беларускія, Так у актах полацкіх, віцебскіх і смаленскіх пануе мова з адзнакамі полацка-смаленскай гаворкі, а ў Падлясі (цяперашняй Сядлецкай і часткі Горадзенскай губернях) цяпер гутараць украінскімі рознагаворкамі, аднак, у актавай мове гэтай мяйсцовасьці ня відаць істотных асаблівасьцяў украінскай гаворкі. Нават у лексічаскім адношаньні знаходзім словы, зусім неўжываныя ў сучасным паказаным жаргоні".

На стар. 6-ай так кажа:

„Затрымаемся крыху больш дакладна на значэньні заходня-рускай гаворкі ў Літоўскім гаспадарстве. На долю зах.-рускай гаворкі выпала ў свой час завідная для другіх рускіх гаворак роля быць мовай гаспадарсьцьвенай—органам разумовага, маральнага і палітычнага жыцьця цэлага народу. Калі Літва паняволіла суседнія рускія краіны (гэта зн. беларускія і украінскія—паясьняе Г.Л.) і ўсьлед затым у доховым адношаньні сама дабравольна паддалася пераможаным, старая заходня-руская гаворка зрабілася мовай гаспадарсьцьвенай ня толькі на ўсходзе, але-ж і наагул у цэлай Літве. Ею пішуцца князёўскія граматы, усялякія афіцыяльныя і прыватныя акты. Ею гавораць і пішуць Ягайло, Вітальд і наступныя Ягайлавічы аж да Зыгмунта-Аўгуста. Мы ўжо гаварылі, што гэтакая роля мовы ў Літоўскім Гаспадарстве была ўзмацавана, нават, праўнай дарогай.

У Літоўскім статуце 1588 г. (стар. 122) чытаем: „писар земъскії мает поруску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати ане йншими езыком и словы“. Аб гэтакім палажэньні статуту старога дбалася да 1696 г.“.

Далей: „Будучы мовай гаспадарсьцьвенай, заходня-руская гаворка па неабходнасьці стала мовай вышэйшых кругаў грамадзянства“. А далей: „Такім чынам зах.-руская гаворка яшчэ балей адграні́чываецца ад усходня-рускай мовы панаваўшай ў маскоўскай пісьменнасьці. Гэтыя абставіны далі розныя вынікі“.

А на стар. 7-ай пры канцы кажа:

„... Дзеля гэтага пераклады св. Пісаньня на народную мову ўжо з самаго пачатку паняволеньня заходня-рускіх краін Літвою, разпаўсюджваюцца ў дастатку і чытае іх ня толькі прасты народ але-ж на‘т і духавенства. Далей на стар. 8-ай Карскі разбірае ўпадак старой мовы кніжнай і кажа: „Мяйсцовыя асабліваськці астаюцца толькі ў вуснах простага народу. Гэтакія асабліваськці і гэтакая доля старой зах.-рускай гаворкі. Больш падрабязна аб гэтым у нашай працы: „Да пытаньня аб разпрацоўцы старое захадня-рускае гаворкі. Вільня 1893 г.“ І падводзіць рэзалюцыю. „Падсумуем цяпер усё вышайсказанае: 1) Старая заходня-руская гаворка мае асобныя, характэрныя рысы, каторыя выдзяляюць яе, як самастойны арганізм. 2) Тыя рысы не выпадковыя, а згаджаюцца з асобнасьцямі беларускай гаворкі, ляжачай ў аснове заходня-рускай мовы. 3) Асобнасьці беларускай гаворкі па сваей старадаўнасьці амаль што ня ўступаюць другім гаворкам; наагул яна не маладзей XV ст.“ І далей канчае гэтак: (стар. 9):

„Пасьля гэтага ставіцца запытаньне—як выпадае назваць старую зах.-рускую гаворку? Назваць яе „мовай рускай“ бяз ўсякага дадатку нельга, бо гэтым тэрмінам мы азначаем толькі агульнае паняцьце — „единаго русскаго языка“ разьдзяляючы яго на „гаворкі“.

Не падходзіць і назоў: „мова літоўская“, бо з разуменьнем літоўскай мовы зьвязваюцца зусім інакшыя прэдстаўленьні. Нават, у лексічаскім адношаньні літоўская мова ня мела на яе амаль што ніякага ўплыву. Ня можа быць, нават, гутаркі аб названьні яе гаворкай польскае мовы, дзеля таго, што яна ня мае тых рысаў, якія выдзяляюць польскую мову з паміж другіх славянскіх моваў. Лексічаскія запазычаньні не дадаюць ёй рысаў тае мовы адкуль яны прыйшлі; апошнія азначаюцца выключна гукамі і формамі.

Паводле нашаго погляду старая зах.-руская гаворка, будучы размоўнай ў вуснах асьветнага (вучонага) грамадзянства, увесь час апіралася на мове простаго народу мяйсцовага беларускага племяні.

Дзякуючы такім абставінам, дзеля пераважаючых у ёй элемэнтаў беларускай мовы і называць яе выпадае **беларускай мовай**, дадаючы хіба дзеля адзнакі, ад сучаснай беларускай — назоў — старой“.

---

І вось, як бачым, праф. Карскі ўжо даказаў, што **беларуская мова**, як самародная, самастойная і незалежная **існуе**.

# Аб сыстэматызацыі беларускае выдавецкае працы.

(Праекцыонны нарыс).

Як ужо ня раз было сьцьверджана галоўнымі, найбольш яркімі праявамі беларускага адражэнскага руху зьяўляюцца: **беларуская літэратура, прэса, тэатр і школа.**

У гэтых чатырох галінах беларускія культурныя здабыткі ёсьць найбольш імпаніруючымі. Гэным разам мы-б жадалі зьвярнуць увагу паважаных чытачоў на беларускую літэратуру. Пэўна-ж, што яе нельга назваць надта багатай, але шмат каму, на‘т спасярод Беларусаў палажэньне яе прадстаўляецца шмат горшым чымся гэта ёсьць у запраўднасьці.

Што-ж гэта? Якая-ж прычына облягчае утварэньне гэткіх абмылкавых паглядаў на беларускую літэратуру, адначасна робячы немагчымым (прынамся для большасьці) яе правідловую ацэнку?

Гэтай прычынай ёсьць бязсыстэмнасьць, пануючая ў выдавецкім руху, а з другога-ж боку адсутнасьць патрэбных капіталаў. Дзякуючы гэткаму палажэньню выкліканаму прадусім адсуднасьцю матэрыялна-моцнага беларускага кніжнага выдавецтва („Бел. Кніжнае Выдавецтва ў Вільні“, зяўляючаеся сымпатычнай спробай ў гэтым напрамку, ня мае патрэбных на гэта грошай і ледзь дыхае!), — выдрукаваньне якой колячы новай беларускай кніжкі зусім залежыць ад прыватнага выдаўца-спэкулянта, кіруючагася—зразумела—пабуджэннямі прадусім матарыяльнага характару.

Аб нейкайсь ідэйнасьці у гэткім выпадку ня можа быць і гутаркі— хіба, што выняткова!... Выдавец гандляр друкуе нічога нявартую ерунду, калі яна можа мець ход, а цэнная навучная праца, ці арыгінальны літэратурны твор, да якіх ня знайдзецца шмат ахвотнікаў, будуць гэткім выдаўцом або зразу адкінены, або ў лепшым выдадку — будуць ляжаць цэлыя гады у століку выдаўца, чакаючы свайго „чароду“,

У рэзультаце вышэйказанага бачым на беларускім кніжным рынку адсутнасьць шмат якіх беларускіх кніжак, а дзеля таго, што далёка ня кожны Беларус (як гэта не сорамна, а трэба прызнацца!) „адважыцца“ на прачытаньне (акуратнае!) гісторыі беларускае літэратуры, — дык і маем у канцы канцоў сярод Беларусаў даволі-ткі імглістае паняцьцё аб роднай літэратуры, угрунтаванае нясумленай агітацыяй з польскага (ці расейскага) боку!

Шчасьлівейшыя за нас народы маюць па некалькі, а на‘т — колькінадцаць выданьняў аднаго і таго-ж самага твору; а беларускія-ж пісьменьнікі, ня выключаючы найбольш талянтных, ня маюць падчас, аж па сёньняшні дзень, ані воднага на‘т выданьня нікаторых сваіх

твораў; дый яшчэ горш, — бо нікаторыя з рэчаў, як напрыклад творы вядомай беларускай пясьняркі Н. Арсэньневай наагуль ня выданы паасобнай кніжкай і дасюль бадзяюцца па розных газэтах ды журналах!

Вось-жа бачым пільную патрэбу у рацыянальным і ідэйным беларускім выдавецтве. Зразумела што нейкімісь сацыяльна-палітычнымі, ці маральнымі пабуджэньнямі пры друкаваньні кніжак можа кіравацца або дзяржаўнае, або прыватнае, але **грымадзкае па духу** выдавецтва. Гэнае апошняе і павінны стварыць віленскія Беларусы, для якой мэты маглі-б скарыстацца ўжо істнуючым Беларускім Выдавецкім Таварыствам у Вільні, рэарганізуючы яго ў напрамку ўзьвялічэньня ягоных фінансова-выдавецкім магчымасьцяў, якое дазволіла-б яму заняцца сыстэматычнай і пляновай выдавецкай працай, у вялікшым, чымся дасюль, маштабе.

Не заглыбляючыся ў дэталі гэнае рэарганізацыі, пяройдзем да галоўных заданьняў, якія павінна было-б зьдзейсьніць гэнае новае, ці толькі абноўленнае Выдавецкае Таварыства.

У нашым артыкуле спынімся толькі над галінай **прыгожага пісьменства**, як найбольш популярнага, а дзеля таго патрабуючай неадкладнаго упарадкаваньня.

Вось-жа адным з першых заданьняў гэтага таварыства, была-б сыстэматычнае выданьне найлепшых твораў беларускае літэратуры, на ўзор аналёгічных польскіх выдавецтваў (напрыклад вядомая „Bibljoteka Narodowa“). Кніжкі гэтыя павінны быць танымі і адначасна з тым скромна але старанліва выданымі. Ніжэй дамо праэкціонны нарыс гэткае скажам **„Беларускае Нацыянальнае Бібліятэкі“**

Вось з грубшага — яе паасобныя адделы:

І-шы аддзел **„Найлепшыя аутары“** (Марцінкевіч, Богушевіч, Ядвігін Ш., Колас, Купала, Богдановіч, Аляховіч, Бядуля, Гарун і г. д.) **поунае выданьне“**

ІІ-гі аддзел: **„Другарадныя аутары“** (Няслухоўскі, Пшчолка, Каганец, Цётка, Паўловіч, Леўчык, Умятоўскі і г. д.) У гэтым аддзеле зьвяртаем увагу на патрэбу перакладу гэткіх прыгожых і даволі вялікіх беларускіх твараў XIX ст. пісаных у польскай ці маскоўскай мове, як напрыклад: 1) **„путешествіе по Полѣсію и Бѣлорусскому краю“** — Шпілеўскага 2) **„Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach“** — Баршчэўскага і 3) **„Богачы“** повесьць Брайцава 4) **„Memuary“** — Абуховіча 5) апавяданьня Пшчолькі і г. д.)

ІІІ-ці аддзел: **„Дробныя аутары“** У гэтым аддзеле знойдуць сабе прыпынак, **маючыя літэратурную цэннасьць** творы нязнаных, або мала знаных аўтараў, якія трэ' будзе адшукаць і павыбіраць са старых беларускіх газэтаў, журналаў, зборнікаў, каляндароў і г. п. Тут знойдуцца і вершы і проза і драматычныя творы.

IV аддзел: **„Беларускі быт у расейскай і польскай літэратуры“** (Пераклады). Гэты будзе складацца з польскіх і расейскіх твораў на

тэмы з беларускага жыцьця, пісаных пераважна праз здэнацыяналізаваных Беларусаў. Аддзел гэты надта-ж добра узбагаціць **беларускую повесьць**, зяўляючуюся сапраўднай „Ахіллесавай пяткай" беларускае літэратуры. Тут знойдзем пераклады гэткіх аўтараў як: Ажэшкова, Родзевічуўна, Вэйсэнгоф і шмат іншых!

Але нельга агранічыцца толькі беларускай адраджэнскай літэратурай (XIX і пчатак XX веку); і вось

V аддзель: „**Старая літэратура**" перанясе нас у XVI век, „Залатую пару" беларускага рэнэсансу, знаёмячы нас з гэткімі пэрламі тагачаснага беларускага пісьменства як: напрыклад „**Біблія**" — Скарыны, „**Эвангельле**" — Цяпінскага „**Літоускі Статут**" ці містычны „**Ай кітаб**", а далей з лепшымі творамі XVII і XVIII стагодьдзяў. Урэшці

VI чужаземны аддзел: „**Пераклады**", дасьць нам пэрлы сусьветнае творчасьці і рожныя рэчы для шырэйшых слаёў грамадзянства. Спэцыяльную увагу трэба тут будзе зьвярнуць на **дзіцячую літэратуру**, (Байкі апавяданьня, сцэнічныя творы і **творы для моладзі**).

Калі гэная праграма будзе, хоць толькі часткава (без старое беларускае і чужацкае літэратуры), зьдейсьнена, — прад нашымі вачыма вырасьце, як у байцы, салідная і багатая бібліятэка беларускае літэратуры і тады ўжо напэўна ня знойдзецца такога дурня, які-б паверыў, што ўсю беларускую літэратуру можна змясьціць „на дзьвюх палічках", як гэта кажуць цяпер рожныя брахуны.

Дык памятаймо, што нармалізацыя і угрунтаваньне беларускай выдавецкай працы ёсьць адным з першейшых культурных заданьняў беларускага народу!

У працы-ж гэтай можам разьлічваць толькі на ўласныя сілы; на салідарны высілак усяго грамадзяньства!

**С. Язэп**

# Грэхклерыка.

*(Апавяданьне).*

— „Ня ўжо гэта каханьне?" падумаў ён, калі абраз прыгожае дзяўчыны заслаў яго вочы белай імглой, і стаў перад разгорнутай кнігай,

— „Нешта ня добрае", праняслося маланкай у яго галаве: „не магу думаць зусім... Не магу адарвацца ад гэтых смяючыхся, хітрых вачоў...

Ён зачыніў кнігу, і паднёсшы крэсла да вакна, сеў, гледзячы ў чорныя, густыя сілуэты дрэваў, што расьлі пад вакном... Лямпа згарэла й сама згасла.

Месяц пачаў ліць сваё серабро праз вакно, абляючы вярхі дрэваў,

профіль маладога клерыка, фігуру укрыжаванага Хрыста і невялічкае драўлянае ложка.

У пакоі закалыхаліся пералівы бела сініх хваляў, срэбныя істужкі перараэаючы пакой на цудоўныя кавалкі, прайшліся прыгожымі зьмянлівымі формамі па твару клерыка... Парфумы недалёкай чаромхі і бэзу з саду ліліся, разьліваліся ў гэтым паветры і паланілі думкі... Яны панясьлі яго далёка й лёгка, падымаючы на нейкім казачным каберцы ўспамінаў...

У пакой уляцела яна...

Маладзенькая, цьвітучая дзяўчына з раскошнымі валасамі, з хітрымі й чорнымі вочкамі, схінуўшы троху на бок галоўку. Яна прышла так, як прышла два дні назад прасіць у яго Эвангельле. І вусны яе таксама рушаліся, і твар сьвяціўся, і вочкі смяяліся ласкава, як бы кажучы: „ня ўжо вы мяне не пакахаеце?“...

Яна прышла з Эвангельлем... Не мадоннай яна прыйшла... Яна прыйшла блудніцай, гойдаючыся зараз перад ім у паветры ў сваёй вясковай вольнай вопратцы, раскрыўшы перад ім сваё фізычнае багацьце...

Ён глядзеў, ня мог наглéдзяцца, але разам з тым хацеў адкінуць як заўсёды розумам надыйшоўшую пакусу. Ен прачхнуўся ад нейкага паэтычнага сну; зачыніў вакно і змучаны заваліўся на каленкі перад крыжам. Горача маліў ён Хрыста даць яму супакой душы, адагнаць ад тайнікаў яе гукі жыцьця з яго брудамі...

Ён доўга маліўся, а месяц пакрываў косамі пакорны пагляд Укрыжаванага й голенае кола на яго патыліцы...

Скінуўшы сутану, ён лёг зпаць, але ня мог заснуць... Усё думаў аб тым, што ён ужо хутка ксёндз, што яму ужо абгалілі валасы і засталося чакаць толькі высьвячэньня... Ён думаў яшчэ й аб тым, што ён прынясе шчасьце й радасьць бацьком, якіх і цяпер уцешыў сваім прыездам... што суседзі наўкал будуць гаварыць аб яго матцы...

А абраз прыгожае дзяўчыны паміж гэтых думак усё зьяўляўся перад ім... — І чаму гэта я ехаў сюды на вакацыі сказаў ён сабе: „яшчэ грэх які лучыцца.

---

Грэх рос... Грэх набліжаўся... калі ён стаяў рана у вясковым касьцёле каля йміпалу, ён думаў толькі аб ёй. У манатонных сьпевах таўсьценькага ксяндза ў прыгожую летнюю раніцу ён забываўся пра ўвесь сьвет, ён чуў толькі нейкі салодкі гул, поўны задуманасьці, сну... Ён думаў толькі аб ёй.

Клерык ня чуў, як голас ксяндза, прачытаўшы: „Deo gratias“ змоўк... Ён глядзеў на аўтáр, а перад ім насіўся абраз дзяўчыны.

Ксёндз павярнуў сваю зьдзіўленую галаву. Клерык усё стаяў задумана каля йміпалу, глецзячы ўдаль...

— Што-ж... Пераносьце, шапнуў ксёндз... — Ах... вырвалася ў

клерыка... Ён, сьпяшаючыся, дрыжачымі рукамі перанёс імшал на другі бок аўтара...

---

Жыцьцё ўляцела. Жыцьцё расчыніла дзьверы душы клерыка.— Усё, што ён так моцна хаваў, аб чым ён, нават, ня думаў у акадэміі, зараз выйшла на паверх, разьлілося па жылах... У дваццаць тры гады ён стрымліваў пачуцьці — а цяпер яны прабіліся моцнай крыніцай... Ен яе пакахаў...

Заўсёды, калі палуднавалі, ён быў сумны, мала гутарыў... Матка ня ведала, што сталася з сынам, чым тлумачацца яго моркотныя пагляды, згуба апэтыту. Яна ўжо й так лашчылася каля свайго дарагога сына, а цяпер не адходзіла ад яго... Але ён зачыняўся ў свой пакой.. маліўся, ці чытаў... Калі й гутарыў з маткай, дык толькі аб суседзях, аб дзяўчыне, прыхадзіўшай па Эвангельле...

Ён ведаў ўжо, што яна — дачка беднага шляхціца, шмат круцілася па вялікіх местах, троху вучаная, ведама сваім характвом і вольным трыманьнем сябе з мужчынамі...

Але ён пачаў адганяць ад сябе гэты грэх... Ён не хацеў пакарыцца прыходзячаму Мэфістофэлю.

Жыцьці сьвятых напаўнялі яго поўным супакоеньнем... Толькі часам ён думаючы аб сэнсу іх існаваньня пытаўся, ці іх сьвятое жыцьцё ёсьць запраўды жыцьцём... ці гэта толькі нейкая абстракцыя. нейкі цень жыцьця... А потым... пасьля жыцьця... Ня ужо яны там у раі... Ён ведаў добра апалігэтыку царквы, ён ведаў тэорыю анімізма...

А цяпер у душу залез скэптыцызм...

„Што ёсьць Бог.., думаў ён часта“...

Потым... ці ён стварыў чалавека для таго, каб ён забыўся пра сьвет, пра тое, што ён сам стварыў чалавеку... Ня ужо ён патрабуе каб людзі і адрываліся ад гэтага жыцьця, для якога ён стварыў іх, а йшлі толькі служыць яму, робячы з гэтага прафэсыю, жыцьцё сваё... Патрэбна гэта Богу, ці гэта толькі фантазія людзёў, можа толькі гістарычны анархавізм...“

Ён задумываўся... Ён думаў аб тым жыцьці звычайных бабаў, якіх ён бачыў, як рыліся на полі...

Ён бачыў кірмашы; чуў гэты гоман людзей, пырханьне канёў каля касьцёлу, а далей, дзесь у полі гукі вясёлага гармоніка. Раней ён ня мог іх цярпець... А цяпер... яму пачынала падабацца мешаніна жыцьця з рэлігіяй.

Тут шмат паганскага.. але шмат здаровага... Ён слабеў у думках... Жыцьцё ламала яго пагляды...

---

А потым... яны сустрэліся ў полі, каля ручаёчку, дзе была кладка сярод прыгожых разваліcтых кустоў лазы... Далёка падымалася дарожка да касьцёла.., з боку стаялі будынкі двара. Яна была босая;

у паркалёвай спадніцы і ў белым каптане... Твар быў белы, чысты; чорныя вочкі так міла глядзелі з усьмешкай... Правая рука трымала даёнку.

— Добры дзень! прамовіла яна, ступаючы на кладку. Ён адказаў ёй, чакаючы на другім баку...

Стройныя, белыя ногі згібалі пад сваім цяжарам накладзеныя жэрдзі.

— Куды-ж вы так рана, папытаў ён, а сам думаў: якая прыгожая!

— Не далёка ў двор, да цёткі Агаты!...

— Як жа вы чытаеце Эвангельле?

— Ах выбачайце... Мне даўно трэба было аднясьці... Але я яшчэ ня прачытала... Шмат працы хатняе... Выбачайце...

— Нічога... Эвангельле трэба чытаць. А вы, хіба, такая набожная.

-Але... Набожная... Трэба быць набожнай...

Бог-жа ёсьць, праўда?...

— Бог ёсьць каханьне...

— Каханьне?!

Ён падыйшоў да яе бліжэй... „Але. Каханьне"... І аглядзеўшыся навокал... ён раптам яе пацалаваў... потым паляцеў на кладку... Яна выпусьціла даёнку з рук і з нейкім аслаблым паглядам глядзела на ўцякаўшага клерыка... Ен абярнуўся...

„Прыходзьце пагутарыць... Чакаю"... Яна падняла даёнку і хіляючыся пацягнулася па сьцежцы на горку...

---

Яна думала аб высокім клерыку... Даўгі нос з гарбінкай, глыбокія, сінія вочы, буйныя формы ўсяго твару... Калі ён глядзеў, вочы яго заўсёды сьвяціліся вясёлай усьмешкай, вусны складвалі маршчынку. Ува ўсім складзе было моцнае, здаровае, мужчынскае... Толькі ён клерык .. ужо аголены. . фактычна — ксёндз... І яна сваім каханьнем зьвядзе яго... Ах, каб ён ня быў духоўны.

Але-ж семя каханьня было закінута ў сэрца...

Цісьнуліся думы... цісьнуліся пачуцьці.

Яна хутка аднасіла Эвангельле... Было таксама пад вечар... Таксама падышла ноч. Таксама лілося серабро месяца. Яна сядзела ў яго пакоі каля вакна, аблітая сіняватым блескам...

Дзьверы былі зачынены. . Клерык ня мог доўга гутарыць. — Ён абхапіў яе, прыцісьнуў моцна да грудзёў і цалаваў моцным, даўгім пацалункам... Дрэвы, здаецца, глядзелі, завідуючы ім, а стары месяц, усьміхаючыся, мацней серабрыў маладыя галовы.

Потым ён пасадзіў яе на каленкі, потым яна абыймала яго круглымі рукамі, а потым... ён, як няпрытомны цалаваў яе...

Апошні грэх быў ля ракі...

Ён ня мог адарвацца ад пахнючага белага цела, ад яго прыгожых жаноцкіх формаў...

Хацеў аддаць усё толькі за гэты пах, за датыканьне, за яе... за пацалункі... А яна... была здаволена сваёй перамогай. Яна цешылася, што пакарыла даўгаполага высокага клерыка.

Ці-ж не кахала яна яго?...

Пэўна кахала, але-ж хіба на сьвеце мала прыгожых мужчынаў, прыгажэйшых за клерыка?..,

---

Лета падходзіла да скону... Клерык зьбіраўся ад'яжджаць... Толькі ўжо не затым, каб атрымаць пасьвячэньне. — Ён ехаў цяпер, каб заявіць, што скідае з сябе сутану...

Матка ціха плакала ў кутку. Бацька, пакручваючы вусы, соп і са злосьцяй кідаў пагляды на дзьверы...

Забарабанелі хутка калёсы, ён панёсься сумна з гэтага кута, дзе ён зьмяніўся, хто ведае, можа згубіў жыцьцё.

Ён ехаў па знаёмаму гасьцінцы міма панурых палёў, маленькіх ляскоў, прыгоркаў, хатаў...

Ён думаў аб тым, што ён кінуў сваё жыцьцё за адно толькі каханьне, за адзін пацалунак... А цяпер яму застаецца так мала, так мала...

Толькі гэтая жанчына яшчэ з чорнымі хітрымі вочкамі прынясе жыцьцё... вясёлыя часіны... Каб ня было яе, ён ужо нічога ня меў бы ў жыцьці.

Цяпер ён будзе кахаць, будзе жыць звычайна, пазнаючы таемніцу Бога — жыцьцё.

---

Ён прыехаў вольным, сьвецкім чалавекам. Ён апавядаў ёй, як зьдзівіў усіх сваіх вучыцялёў, як яны звалі яго здраднікам, ашуканцам .. Яны ня верылі, каб такі набожны чалавек, як ён мог скінуць сутану.

Яна сьмяялася, седзячы на каленках і абыймаючы шыю... Яны хадзілі заўсёды ўвечары, гутарылі, абяцаліся быць вернымі адзін аднаму...

А праз месяц яна паехала... Паслала сказаць, што хоча бачыць яго перад ад'ездам..., Ен прыйшоў высокі, бляды, сьціснуўшы вусны...

— „Я ад'яжджаю", кінулася яна да яго на шыю...

— „Ты ад'яжджаеш" сказаў ён, гледзячы ёй страшна ў вочы... „Цяпер... Ты ад'яжджаеш, калі адняла ад мяне ўсё... маю навуку, маё жыцьцё... шчасьце... Я ня маю слоў, як назваць твой паступак, нягодная...

---

— Я тут ня пры чым... дарагі мой... Умірае дзядзька — павінна я паехаць... Праўда ці не?..

Яна павісла на яго шыі сваім зьнітным целам...

— „Адыйдзі“, аднімаў ён яе рукі...

— „Ты прыдумала розныя прычыны... ашукаць мяне... адыйдзі“...

— Я-ж мушу ехаць... разумееш... Што тут рабіць на вёсцы... Паеду да дзядзькі ў места... Ну бывай...

Яна працягнула яму руку.

Ён яе ня прыняў...

— Ты едзеш зараз... Ты кідаеш мяне... разьбіўшы ўсё... Едзеш?.. На доўга?

Еду. На доўга. Абавязкава еду... Бывай... Яна падыйшла да яго і ўзяла за шыю...

— „Ня руш“, казаў ён, вырываючы шыю. „Я на цябе глядзець не магу... Ты мяне ўжо не кахаеш?...

— Я цябе не забудуся... Прышлю ліст... Бывай...

— Я ня веру табе... Па тваіх вачох бачу, што маніш... Ты ведаеш, хто ты?... Паскудзтва... За гэта трэба вось як... Ен выцяў яе па твары й выйшаў...

Так застаўся клерык адзін...

---

Заўсёды ў вялікі пост, бачылі ў тым касьцёле высокую пакутуючую фігуру мужчыны...

Калі ён спавядаўся, дык стаяў ня рушачыся каля дзьвюх гадзінаў у спавядніцы... Калі стаяў на каленках перад крыжам, ён моцна маліўся, злажыўшы далоні.

Дзівіліся прысутныя... У касьцёле прабягаў шорах... А ён стаяў і таксама моцна, натхнённа маліўся.

У яго маленьні было шуканьне ўцехі, падпоры, была просьба дараваць грэх, быў сум, была шкода загубленных гадоў і жыцьця, быў разам з тым супакой, вера, чыстае каханьне да бліжняга... Ен маліўся за сябе й за тую, што згубіла яго, просячы ў Яго прабачэньня...

**Пісар.**

В. Грывіч

# Жывое дрэва.

З цыклю апавяданьняў аб лесе.

*(Усе правы аўтар пакідае за сабой)*

Беларускі край з прадвеку слыве сваімі лясамі; і, запраўды мусіць, рэдка дзе ў іншым мейсцы на сьвеце можна знайсці такія прыгожа-вялічавыя лясы як у нас: ад пачатку Волгі і да Буга, ад Вялікіх Лук і да Мазыра і Городлі, далёка шырока па ўсей нашай зямлі расьkінуліся яны цёмным дыванам, высокімі вёрхамі сваіх дрэў уперліся ў неба і шэпчуць штосьці хмарам нябесным. А паміж імі зелянеюць палі і, быццам мора, хвалююцца сваімі даўгімі цяжкімі каласамі.

Аб чым яны шэпчуць, што яны баюць ?!

Бог іх ведае. Ды й ці варта падслухоўваць іх ціхую сумную гутарку? Што дасьць апрача суму яна душы чалавека?.. Ці гэта гаворка ня ёсьць сумны жаль і скарга ў неба ?

Скарга, ой скарга і жаль нясказаны плыве да неба з гэтых цёмных лясоў, залацістых ніў і зялёных сенажацяў. Але неба маўчыць, неба глуха на гэтыя скаргі — сьлёзы.

Калі-ж прыйдзе той час што неба ўчуе гэтыя скаргі, ўбачыць сьлёзы ?!..

„Пакуль сонца ўзойдзе — раса вочы выесьць", кажа старая прыказка.

Плача і стогне лес гінучы пад сякерамі чужынцаў, плача і стогне сялянін наш гаротны, бачучы як зьнікаюць лясы—гэтае адзінае нашае багацьце і наша апора. Але неба глуха на скаргі і сьлёзы яго.

І што год прыйдзе, то ўсе балей і балей радзеюць лясы нашы што год то ўсё трудней і трудней робіцца людзям нашым з дрэвам і драўмі.

Найгорай - ж зрадзелі нашы лясы за апошніх дзесяць гадоў, Гледзячы цяпер на наш край, робіцца сумна на душы чалавеку. Павальнае зьніштожаньне нашых лясоў, падобна на гайдамацкае марнатраўства,—таго, што векамі назьбірала і прыдбала нам прырода для нашага ўжытку. Багаты калісь лесам край, сягоньня рэштамі гэтага багацьця запіхае да адказу ўсю Заходнюю Эўропу.

А ў той час, калі Заходняя Еўропа, гадуючы ў сябе вялізарныя абшары лясоў, за безцэн зьніштажае нашае адзінае багацьце; а спрадвечны і праўдзівы гаспадар гэтых абшараў сялянін-Беларус, калі ня хоча яго „красьці" гібее ў зямлянцы, мерзьне зімой ад холаду, бо купіць дрэва, ці дроў ня мае за што—яно яму не... пад сілу, не па грошах.

А „красьці“ дрэва справа ня лёгкая і ня ёсьць прыемная. Дай, Божа, каб нікаму з нашага народу гэтага рабіць ня прыходзілася.

Дрыжыць чалавек бедны, едучы ў лес, дрыжыць пілуючы дрэва, дрыжыць вязучы яго дамоў, удома—хаваючы.

Часам гэтае дрэва ён адважваецца „украсьці“ і на ўласным могільніку.

А чаму!? — чаму ён едзе ці йдзе красьці гэтае дрэва?...

На гэтае пытаньне мы ня будзем ляпей адказваць.

---

I.

Доўгі прыгожы летні дзень канчаўся. Поўнае велічы і красы сонца хавалася за лес, яго цёплыя сьветлыя праменьні што раз то ўсё балей і балей уцякалі за вярхі дрэў, уступаючы сваё мейсца ценям. Цені расьлі і шырыліся і з кожнай часінай захоплівалі ўсё больш і больш абшары. Хутка сонца зьнікла зусім за лесам, толькі шырокая доўгая істужка пурпуру на заходняй старане небасхілу сьведчыла аб тым, што яно не пагасла, а там дзесьці далёка сьвеціць іншым людзям, грэе іншыя землі.

Там дзесьці далёка дзень быў у поўнай красе, у іншым мейсцы ён ізноў пачынаўся, але тут у гэтай краіне цяпер паволі, але рашуча, упарта, дзіўная па сваей красе, летняя ноч агартала ўсё ў свой ашчэп і забірала пад свае панаваньне. Неба было чыстае, яснае; нідзе ані найменьшай хмаркі. Адна за аднэй, быццам запальваныя чыейсьці рукою, зьяўляюцца ў высі зоркі. Знад ракі і балота доўгай, шырокай белай посьцілкай падымаецца ўгару туман. Усходня-паўднёвы лёгкі цёплы ветрык, чуць заўважна калышучы лісты дрэў і хвалюючы збожа, прыемна казыча твар.

У вёсцы Асінаўцы, што раськінулася абапал дарогі на высокім узгорку, які, быццам выспа пасярод мора, зеляneўся паміж парослых лазой балотаў, у гэты вечар ўсё йшло такім самым парадкам як усюды і заўсёды. Жвава канчалі сяляне сваю вячэрнюю штодзенную працу і, не зьвяртаючы увагі на тое, што робіць іх сусед, йшлі ў хату на вячэру. Вёска паволі пачынала заціхаць; толькі дзе-ня-дзе хлапцы, што рыхтаваліся ехаць на начлег, ды крыксуны драчы на балотах нарушалі яшчэ супакой дзіўнай ночы.

На астатку начлежнікі з крыкам і песьнямі выехалі за вёску, а драчоў супакоіла ночь. Усё анямела і сьціхла; толькі чыстае неба дрыжыць і іскрыцца мільёнамі зор, ды паволі з-за лесу пачынае паднімацца ў поўнай сваей красе месяц. І ў велічы ягонага сьвету засыпае ціха сяло.

Але вось у аднэй з хат, што стаяла пры краю вёскі, ціха скрыпнулі дзьверы і на парозе паказаўся з сякераю ў руках высокі худашчавы мужчына, апрануты ў белыя з дамовага палатна нагавіцы і спашытую з свайго сівога сукна жакетку. Зачыніўшы ціха, быццам баючыся кагось разбудзіць, за сабою дзьверы, ён выйшаў на вуліцу,

аглянуўся кругом і, упэўніўшыся што яго ніхто ня бачыць, падыйшоў да вакна суседняй хаты.

— „Міхась!... а, Міхась!... ты сьпіш?"... прагаварыў ён ціха, прытуляючыся да вакна.

— „Не, ня сьплю", пачуўся яму ў адказ голас з хаты.

— „Ну, дык скора бяры пілу ды пойдзем... Цяпер ніхто нас ня ўбачыць.

— „Слухай, Паўлюк, ляпей кінем мы гэта ўсё і ня пойдзем".

— „Чаму"?

— „Боязна, брат"...

— „Чаго ты баішся?.. Вось дурань!"

— „Падумай ты сам, гэта-ж ноч, а мы на мо́гільнік пойдзем дрэва рэзаць"...

— „Дык што-ж тут такое?"...

— „Як што?!.. а нябошчыкі".

— „Эт, глупства толькі пляцеш... Што табе нябошчыкі зробяць? Бяры пілу, ды ідзем".

Міхась за сьцяною яшчэ нешта марматаў, але Паўлюк яго ня слухаў і панукаў, каб ён браў пілу і хутчэй выходзіў. Наастатку дзьверы хаты адчыніліся і нявысокі прысядзісты хло́пяц гадоў дзевятнаццацёх паказаўся на парозе. Хвілю ён яшчэ аднеківаўся, але Паўлюк стаяў на сваім і наастатку яго ўгаварыў. Узяўшы пілу, яны праз гумно выйшлі ў поле і, павярнуўшы ўлева, дарожкай скіраваліся да могліцаў.

На перадзе йшоў Паулюк, Міхась паволі, як-бы нябо́чучы, пераваліваючыся з нагі на но́гу, плёўся за ім ззаду. Кожын з іх думаў сваю асобную думку. Высокі Паўлюк праклінаў усіх і ўсё на сьвеце і, нават, быў злы на самога Бога за тое, што іхняя вёска была так далёка ад лясоў, што гэтага лесу яна ня мела свайго, а найгорай за тое, што ён быў бедны і ня меў за што купіць сабе патрэбнае дрэва. Тут ад Паўлюка найбольш дасталася солтысу, бо ён, „шэльма", ня мог пражыць і тыдня, каб не пагнаць сялян у фурманкі, то вазіць кудысь дрэвы, то дошкі, а то і проста вясьці якогась „pana nauczyciela" да ягонай „ narzeczonej nauczycielki". І прыйдзе гэты солтыс як князь які, крыкнець на цябе: „запрагай каня і едзь туды і туды" і ты мусіш ехаць — ня ўпрэшся. А калі не паслухаеш і не паедзеш, дык на тваё мейсца суседа папруць, а цябе такім штрафам абгрэюць, што ты дзісятаму закажаш, як ня слухаць „начальства".

У апошняе вось з гэткіх падарожаў у Паўлюка лопнула ў дарозе трубка ў калясе. Бяда сталася ў такім мейсцы, што хоць ты памірай; на дарозе гразь аж па трубкі, да найбліжэйшай вёскі наймення вярсты тры, ды й плота, нават, нідзе ня відаць

Успомніўшы гэтае здарэньне, Паўлюк уздрыгнуў усім сваім це-

лам і ён узноў убачыў свой, перакуляны на адзін бок, воз у гразі, усяго мокрага змучанага коніка, з апушчанай уніз галавой і... і на вазе „pana nauczyciela“. Гэты пан вучыцель сядзіць на вазе і, махаючы рэвальвэрам, усімі „найлепшымі“ словамі лаець „хама“ за ягоную хітрасьць.

— „Гэта ты наўмысьня ўстроіў, каб не вясьці мяне далей“. „Пачакай-жа ты... будзеш ты мяне помніць“.

І вучыцель дастаў паперу і пачынае пісаць „пратакол“. Паўлюк, зьняўшы шапку просіцца ў яго, тлумачыць, што ў яго гэты калёсы апошнія й іншых няма, але гэта нічога не памагае, — пратакол пішацца далей, а пасьля і канчаецца. Дрыжучы ўвесь ад страху, Паўлюк, па загаду вучыцеля, каракулькамі яго падпісвае, ня сьмеючы, нават, пацікавіцца аб тым, што ў гэтым пратаколе напісана. Ды яму было ўсёроўна: ён ведаў, што яго ўжо жджэ кара, ня ведаў толькі якая.

Як прыехаў ён пасьля дамоў, як давёз вучыцеля, ён, нават, не хацеў і ўспамінаць, бо трэба было думаць аб новым калясе. Ня маючы грошай і дрэва, гэта было справай ня лёгкай.

Але ў кожнай бядзе наш чалавек знойдзе сабе той ці іншы ратунак. Так сталася й тут. У той час, калі Паўлюк думаў і ніяк ня мог сабе прыдумаць, дзе яму ўзяць бярозы на трубку, яму прыйшлося вясьці каля могілак каня на пашу. Тут ён адразу як на новы сьвет нарадзіўся; густа заросшы дрэвам, могільнік шумеў маладым зялёным лісьцем сваіх бяроз, быццам хочучы сказаць:

— „Вось табе трубкі“.

Міхась быў заняты зусім іншымі думкамі. Яму было цяпер мала дзела да таго, ці Паўлюка аштрафуюць ці не. З прыроды сваей ён быў баязьлівы; нікаторыя, нават, гукалі, што ў яго „ня ўсе былі ўдома“. І цяпер яму трэба з Паўлюком ісьці ў начы на могільнік пілаваць дрэва. Ох, гэтыя могілкі!.. Там, нават, і днём Міхасю аднаму бывае страшна, а тут ноччу ды яшчэ і рэзаць дрэва. Няўжо нябошчыкі ім за гэта не памсьцяцца.

І Міхась адну за аднэй пачаў прыпамінаць байкі аб страхах і здарэньнях ночы на могілках і каля іх; валасы яго сталі дыбам, ён пачаў, нават, падумаваць аб тым, каб уцячы ад нягоднага Паўлюка, але пасьля раздумаўся; Паўлюк йшоў наперадзе, а ён ззаду, значыць і зланьне ці страх напэўна перш уцяцецца за Паўлюка, а ён тымчасам патрапе ўцячы.

Занятыя гэтымі сваімі думкамі яны, нават, і не агледзіліся як хутка падыйшлі да могілак, якія на дзіва густа зарошы былі сасонкамі і бярэзьнікам. У лёгкім усходня-паўднёвым ветры, дрэвы чуць заўважнаківалі сваім гальлём і ціха шумелі, дадаючы магілкам гэтым шумам яшчэ большай маестатычнай велічы і таямнічасьці. Тут мужчыны на хвіліну затрымаліся.

— „Каб ты ведаў, Паўлюк, як мне не ахвота ісьці на могільнік пілаваць дрэва“ — прагаварыў Міхась.

— „А мне ты думаіш дык вялікая ахвота? але мусіш; сам-жа ведаеш якое жыцьцё без калёс у гаспадарцы летам“.

Ён аглянуўся назад і кругом сябе. Усе было пуста, вока нідзе не асачыла ані жывой душы, ані жывога стварэньня; толькі дрэвы ціха шумелі сваю спрадвечную казку.

— „Ідзем“—сказаў ціха Паўлюк і ступіў уперад. Міхась пакорна і бяз слоў, апусьціўшы нізка галаву, паплеўся за ім ззаду.

Адчыніўшы напалавіну разламаныя варотцы, яны праз вузенькую брамку ўзыйшлі на могільнік і скіраваліся да высокай роўнай бярозы, што стаяла ля самага плоту. Па свайму гатунку бяроза як нельга ляпей была для іх падхадзячай, у дадатак да ўсяго плот там быў разваліўшыся, дык і забраць яе было лёгка. Ля бярозы мужчыны яшчэ раз агляну́ліся кругом, але й цяпер, як і перш яны нічагусенькі не заўважылі, ўсе было ціха і пуста і яны перахрысьціўшыся прыгнуліся да зямлі, каб пачаць працу.

Ціха і нясьмела скрыгнула некалькі разоў піла аб кару бярозы, пасьля як-бы набраўшыся адвагі, ёмка пачала уразацца ў дрэва, штораз то ўсе глыбей і глыбей запушчаючы свае вострыя зубы.

— „Ай!... ай!...“ застагнала раптам нешта пад самымі нагамі ў мужчын, голас быў ціхі, тлумляны, ня выразны і здавалася выходзіў з-пад нешчасьлівай бярозы.

Піла раптам, быццам па загаду затрымалася ў дрэве; і Міхась і Паўлюк, ня хочучы адзін аднаго палохаць, доўга, доўга папраўлялі на сваіх патыліцах шапкі, шукаючы адначасна вушамі таго мейсца, адкуль маглі-б зьяўляцца гэтыя таямнічыя стогны. Але як толькі сьціх скрып пілы, сьціх і таямнічы голас, і голасу гэтага ніводзін з іх ня мог улавіць, як доўга не папраўлялі яны сабе шапак. Успакоеныя гэтым узяліся яны ўзнова за пілу і пусьціліся ў працу.

Але як толькі піла ўзнова скрыпнула сваімі вострымі зубамі па дрэве, дрэва зашумела і затраслося і таямнічы голас адазваўся ўзнова, але цяпер больш моцна і выразна.

— „Ай!... ай!... ай!... людцы-ж мае, родненькія!... ай!... — маліўся хтосьці, як здалося мужчынам пад самой бярозай, а можа і ў ей, а піла ізноў вывалілася з іх рук.

— „Паўлюк, ты чуў?“—запытаўся папраўлячі ізноў сваю шапку Міхась.

— „А ты чуў?“

— „Чуў“.

— „Што ты чуў? — пытаўся яго Паўлюк.

— „А ці-ж ты ня чуў, як галасіў нябошчык, на якім расьце гэтая бяроза?“

— „Не ня чуў. Гэта табе выдалася“, адказаў Паўлюк, сьцяміўшы наастатку, што дурнаватаму Міхасю ня варта дадаваць страху, бо той і так гатоў быў ужо ўцячы. Міхась гэтаму паверыў, ды й як было

ня верыць калі, як ён ня прыслухваўся і не ўглядаўся, нідзе ён ня мог нічога такога падозранага заўважыць: ўсе як і перш было ціха і пуста.

Пастаяўшы хвіліны з дзьве яны ўзноў узяліся за работу. Але, як толькі піла склыгнула па дрэве, дрэва ажыло і заенчыла йзноў.

— „Ай!... ай!... людцы-ж мае!... родненькія!.. што-ж я вам благога зрабіў.., што вы мяне так мучыце !...

Тут ўжо і Паўлюк ня ўстояў.

— Духу, Ты Сьвяты!... Маці Божая!... што-ж я гэта раблю бязбожны!..." — ўскрыкнаў ён, пасьпешна хрысьцючыся. „Ці мне дрэва нідзе на сьвеце ня будзе, каб я гэтак мучыў нябошчыкаў?!". і схапіўшы сякеру з ўсёй сілы папёрся ў вёску, а за ім з пілой ў руках гнаўся, зьбялеўшы, як палатно, Міхась.

(Далей будзе).

# Лес у зімовую ноч на Беларусі.

Усюды, кругом магутная цішыня. Усё паветра, як-бы заснула моцным, моцным сном; сіняе, чыстае неба,—не аднае хмаркі нідзе ня відна. Нялічаныя мільёны зорачак пераліваюцца рознымі колярамі. Глядзіш і ня можаш адарваць вачэй ад гэтага серабрыстага мігатаньня неабнятага ліку зорак. Табе здаецца, што гэтым бліскам яны кажуць, аб незразумелых тайнах усяго сьвету аб тым, што рабілася праз мільёны гадоў на зямлі ды на іх самых.

Круглы, сьветла-сярэбраны, месяц плыў у сіняве неба й сваім сьветам абліваў усё кругом. Белы, белы сьнег здаваўся яшчэ бялейшым ад бліску месяцу. Нялічанае мноства зорачак, здавалася, былі рассыпаны па бела, бела-палыскаючымуся сьнегу.

Усё кругом спіць магільным непрабудным сном. Бліскучы сьнег здае зьвінючы скрып з пад ног зпозьніўшагася, ды сьпяшаючагага да хаты чалавека. Усё спала багатырска-моцным, моцным сном; толькі адзін лес, беларускі багатыр—сілач стаяў спусьціўшы бараду й думаў цяшкую, маркотную думку. Думаў ён, аб прошлых днёх і аб будучым сваім лёсе, аб долі той зямелькі на якой ён ускормлены і ўспоены, У гэны мамэнт, мамэнт вялікай сьвятое думкі, ня можна абрысаваць, апісаць усю велічыню і пекнасьць яго. Няма гэтульлкі слоў, розных красак, колькі трэба каб Вы ўбачылі яго гэткім, якім быў ён у гэны мамэнт вялікае думкі.

Шырокая дарога пакрытая белым, палыскаючымся сьнегам зьвівалася і прападала ў далі драмучага задумчывага лесу. Па абодвых баках яе сталлі высокія, высокія ёлкі пакрытыя настольніцаю белага, палыскаючагася сьнегу, яны сталлі, і не адна лапка нідзе не нарушылася, адно апусьціўшыся да нізу, пакрытыя пакрывалам белага сьнегу, як-бы ад вялікага цяжару. Ціха й спакойна сталлі векавыя сосны высока,

высока падняўшы свае кудлатыя галовы. Кругом усё спіць непрабудным сном.

У гэны час, пры зіяньні неабнятага ліку зорачак, пры сьвеце круглага месяца, цемнаце й таемнасьці векавога лесу, ўсё навакол здавалася бязгранічна вялікім.

Высокія, стройныя, векавыя сосны, пакрытыя пакрывалам бела-палыскаючагася сьнегу, маркотна-задумчывыя ёлкі ў гэны час думалі адну думку разам са мною.

Ува ўсім сусьвеце, ува ўсей акружаючай мяне прыродзе быў адзін вялікі незразумелы дух жыцьця. У адзінакавай меры ён, як ува мне самым, так сама ў кожнай хвойцы, кожнай ёлцы, пасярод далёкіх міроў і усюды, усюды кругом. У аднольковай меры напаўняў ён, як маю душу, так сама й увесь сусьвет. Я чуў, што пасярод гэтага густога, цёмнага, дрымучага лесу я быў не адзін, а са мною тое, што з набожным чалавекам у мамэнт яго шчырай вялікай малітвы Богу. Як ён, так сама я, абняты магутнай сілай духу прыроды, стаяў і маліўся. Не маліўся я таму Богу, якому моляца веручыя ў Бога людзі і маліўся сам я ў гады далёкага дзяцінства, але маліўся я таму Богу, які жыве, як ува мне самым, так у кожнай расьліне, у кожным жывым стварэньні, ды ўва ўсім сусьвеце. Пасярод гэнага дрымучага, сасновага лесу быў я не адзін. У кожнай ёлцы, маленькім ці вялікім дрэўцы я адчуваў магутную, незразумелую сілу вялікага жыцьця, якое ёсьць ува мне, ды кожным чалавеку.

Змучанасьць апанавала маею душою. Я перастаў думаць. Стала якасьць страшна.

Дзесьці далёка-далёка чутно было выцьцё галодных, шэрых ваўкоў. То зачыналі тоненькім, тоненькім, як нітачка галаском, то адзываліся грубым завываньнем, навадзіўшым на душу страх. Бліжэй адклікаўся другі—то адзываўся стары воўк на за выванье галодных дзяцей, якім не цярпелась ад мучачага голаду.

Местамі, то тут то там разносіўся гук ад трэскаючага ад марозу дрэва. Больш нічога не адважвалася нарушыць глыбокага сну дрымучага лесу.

Я скіраваўся да хаты. Па-абапал шырокае дарогі стаяла хваевалловая сьцень: усё напамінала казкавае царства.

Уперадзі было відаць прасьвет. То былі дзялянкі вырубанага лесу. Адно, то тут, то там, стаялі сваі — семянікі, астаткі былое красы.

А круглы, белы месяц бяз упынку абліваў усё кругом сваім бліскам.

Уся прырода прадаўжала спаць багатырскім, непрабудным салодка-ачароўваючым сном.

Сакавік 1925 г. **Мікалай Птушка.**

*А. Міцкевіч*

# ДЗЯДЫ.

## Часьць II.

**Гусьляр. — Стары з хору. — Хор сялян.** (*Капліца. Вечар.*)

**Хор.**

Ціша ночы, цемра ночы
Штось прароча, штось прароча...

**Гусьляр.**

Замкнеце выхо́ды капліцы
І станьце кругом над труною;
Ні сьвечкі нідзе, ні газьніцы,
Завесьце вакно тканіно́ю:
Хай месяца белыя косы
Ня ткуць на падлозе палосы
Хутчэй толькі, хутка і сьмела.

**Стары.**

Сказаў ты — мы скончалі дзела.

**Хор.**

Ціша ночы, цемра ночы
Штось прароча, штось прароча...

**Гусьляр.**

Чысцовыя душачкі!
У якой-бы там краіне:
Ці ў смале якая гіне,
Ці мо' мерзьне на дне рэчкі,
Ці для горшай, зьлейшай кары
У дрэва ўшчэмлена сырое,
Ці ў печы, у моцным жары
Плача, стогнучы парою—
Грамадой аднэй сьпяшэце!
Тутка будзе наша зборка.
Мы „дзяды„ спраўляем, йдзеце!
Есьць усё ў сьвятой капліцы:
І малітва ёсьць, і зёлкі
І пад'есьці, і напіцца.

**Хор.**

Ціша ночы, цемра ночы
Штось прароча, штось прароча...

**Гусьляр.**

Дайце прыгаршню кудзелі,
Запалю яе... Зважайце:
Толькі-б ніці загарэлі
Іх дыханьнем падганяйце,
Гэтак, гэтак, болі, болі,
Хэй ўгары згарацъ паволі.

**Хор.**

Ціша ночы, цемра ночы
Штось прароча, штось прароча...

**Гусьляр.**

Вы раней, ціхія духі,
Госьці ў пахмурнай краіне
Цемнаты і завірухі,
Плачу, болю каляіне.
Зазіялі і згарэлі
Быццам прыгаршня кудзелі,
Хто вятраным бродзіць шляхам,
Ня прыняты небам, раем,
Таго лёгкім дыша пахам
Заклікаем, заклінаем.

**Хор.**

Мо' каму што не хапае,
Хто што хоча, што жадае?

**Гусьляр.**

Ой, зірнеце толькі ўгору,
Пад скляпеньнем нешта зьзяе,
Залатыя ў'юцца пёры,
Двое дзетак выплывае.
Як ганімыя лісточкі
Пад царкоўку ўзьлятаюць,
Як на дрэве галубочкі,
Так анёлкі два гуляюць.

**Гусьляр і стары.**

Як ганімыя лісточкі
Пад царкоўку узьлятаюць.

Як на дрэве галубочкі,
Так анёлкі два гуляюць.

**Анёлак** (да аднэй з жанчын).

Ляцім да мамы, да мамы,
Пазнаеш, матуля, сыночка?
Я Юзік твой, глянь, гэткі са-
мы,
А гэта—сястра, твая дочка.
Цяпер у раі нашы хаткі,
Там лепей, як тутка у маткі:
Галоўкі ў праменьнях, бы
сьвечкі,
Спаднічкі нам зоркі пашылі,
А глянь толькі, мама, за
плечкі,
У нас матыльковыя крыльлі!
У раі досыць сонца і ласкі,
Што дзень, то другая забаўка,
Дзе станем — там вырасьце
траўка,
Дзе пройдзем — красуюцца
краскі.
Але, усяго там даволі,
А мучыць нас злая трывога:
Для дзетак тваіх, з Божай
волі,
Зачынена ў неба дарога!

**Хор.**

Але, усяго там даволі,
А мучыць іх злая трывога:
Для дзетак тваіх, з Божай
волі,
Зачынена ў неба дарога...

**Гусьляр.**

Чаго-ж табе даць, дзіцянятка,
Каб мог ты дастацца ў неба?
Мо' пацераў просіш да Бога,
Мо, смачнае булачкі трэба,
Сьмятанкі ці мякага хлеба?
Мо' яблыкаў, ягадаў з градкі
Чаго-ж табе даць, дзіцянятка,
Каб мог ты дастацца ў неба?

**Анёлак.**

Нічога нам болей ня трэба...
У жыцьці мелі шчасьця за
многа,
Затым — і нуда і трывога.
Ах, колькі жылі мы на сьвеці
Ня знали мы горкага, дзеці,
А толькі пятчоты сваволя:
Што зробіш, то добра, то цаца,
Сьпяваці, гуляці ў полі
Ці краскаў нарваць для Ра-
залькі,—
Вось гэта была мая праца.
Яе-ж праца гульні ў лялькі.
Цяпер, на „дзяды", мы ляцелі
Ня з тым, каб маліліся й елі,
Ня трэба імшы нам ахвярнай,
Ня нам піражкі і агладкі,
Мы просім гарчыцы зярнятка.
І болей ўслугай тэй марнай
За пацеры зробіце, маткі.
Бо слухайце, уважныя людзі,
Мудрэйшую Божую волю:
Хто гора ня зьведаў ці болю,
Мець шчасьця ў небе ня бу-
дзе.

**Хор.**

Уважна мы слухайма, людзі,
Мудрэйшую Божую волю:
Хто гора ня зьведаў, ці болю
Мець шчасьця ў небе ня бу-
дзе.

**Гусьляр.**

Анёлачак, дзіцянятка,
Чаго просіш, дам нямнога:
Вось зярнятка, вось зярнятка.
А цяпер ляці да Бога.
Бо калі ня пойдзеш, слухай:
У імя Ойца, Сына й Духа
Падымаю Божы Крыж.
Не хацелі есьці, піці,
Нас пакіньне і ляцеце!
А кыш! А кыш!

**Хор.**

Бо калі ня пойдзеш, слухай:
У імя Ойца, Сына й Духа
Падымаем Божы крыж.
Не хацелі есьці, піці.
Нас пакіньце і ляцеце!
А кыш! А кыш! (анёлкі зьнікаюць).

Пераклала **Н. Арсэньнева.**

# Сьледам за дзедам.

(Беларуская прыказка).

Родны наш краю, Русь-Бела старэнька
У лугох і вазёрах красуешся ўсенька,
У рэчках, обросшых трасьцінай, аерам,
Лесамі атулена, поўнымі зьверам;
У кветках даліны, курганы і горы —
Ты чыста, як поясаў слуцкіх узоры!

Грыміць у дзяцей тваіх родная мова
І песьня — як ліра, як чудка вярбова
Разносіцца рэхам пры захадзе сонца:
Дзе сівы дзед йграе ля хаты вэконца,
А ўнукі і ўнучкі ад кожнае хаты —
Усе слухаюць культ твой чароўны, багаты!

Ты, матухна нашая, родная, міла!
Жыве і жыць будзе нязьнішчана сіла
У грудзёх тваіх дзетак і ўнуках сярмяжных,
І так, як дзяцы, неадменных, адважных;
Як прадзеды беглі дзядоў сваіх сьледам,
Так праўнукі пойдуць іх сьледам за дзедам!

Так!—Сьледам за дзедам—нароўні з людзямі,
Як роўныя з роўнымі пойдзем мы самі
Сваёю дарогай к Бажышчу навукі!
Ніхто ня прыпыніць: ні крыўда ні мукі
Дарогі да сонца свабоды тым сьледам —
Якім йшлі заўсёды ўнукі за дзедам.

Слонім **Л. Леучык**

# Ня бядуй.

Ня ўздыхай, не бядуй,
Сьлёз дарма ты ня лі,
І жыцьця не кляні —
Долю працаю куй
Сам уласнай рукой!
Ты над доляй сваёй
Сам і пан, сам і цар —
Сам і шчасьця ўладар!
Дапамогі з людзёў
Мець дарма ты ня жджы:

У рукі сьветач вазьмі,
Цемру хмар разгані,
Сьвецячы ў начы!
Песьню шчасьця сьпявай,
Каб пачуў родны край
Што дрыжыць ужо зямля!
Каб з магіл, курганоў
Усталі цені дзядоў
І прышлі паглядзець,
Што народ лепш жывець!

N.

# Кавалю.

Гэй каваль! Хутчэй да працы!
Роспалі ў горне жар!
Па жалезу - яскрамёту
Моцна молатам удар!
Хай пальецца звон сталёвы!
Бій! Мацней, дужэй, званчэй!
Молат ускінь і ўзноў магутна
Удар грымні хутчэй, гулчэй!
Куй ты меч мне—бел-бліскучы!
Бій!—каб іскраў сном ляцеў!
Каб над малатам сталёвым
Новы меч пяяў—зьвінеў!

Я той меч, як жар, бліскучы
Уздыму на цемру—ноч!
Той, хто вораг сьветлай праўды,
Уцякай далёка проч!
Разступіся, цемра злая!
Ясны сьвет—да нас зірні!
Я йду, да долі лепшай!
Гэй!—Са шляху, зла сыны!

**Пятро Сакол.**

14. VII. 1924. Люцын.

# З народнай творчасьці.

## Гара Марцінуха.

**(Народная казка).**

Жылі былі два браты: адзін быў бедны. а другі багаты. У беднага брата было шмат дзяцей — адно другога меншае. Бедны брат заўсёды надакучаў багатаму, ходзячы да яго з рознымі просьбамі. Каб адчапіцца ад малодшага беднага брата, старшы брат выкалаў яму вочы ды пусьціў на ўсе чатыры бакі.

Бяз вочаў, з цэлаю горбаю маленькіх дзетак, ды да гэтага нідзе нічога! — Ён кінуў усё ды пайшоў у цэлы Божы сьвет. Доўга йшоў ён: йшоў адзін дзень, йшоў другі, йшоў трэйці; нарэшці, падходзіць да вялікага, вялікага ставяковага дубу. Пад гэным дубам, змучыўшыся, прысеў ён адпачыць. Даўга ён сядзеў тут, думаючы, як жыць на сьвеці. Думаў, думаў, ажно чуе: зашумеў лес, закалыхаліся магутныя, стовяковыя дрэвы — то ляцелі дванаццаць малайцоў, якія селі на тым дубе, пад якім сядзеў ён. Як толькі ўсе яны ўселіся, пачалася паміж іх гутарка. Гутарылі, гутарылі аб сім, аб тым, а ўканцы галоўны з іх кажа: „На гэтым дубе ёсьць невялічкае яблычко, якім калі памазааць вочы сьляпога, то яны зробяцца відушчымі“.

З гутаркі іх сьляпы даведаўся, што недалёчка адгэтуль ёсьць „Гара Марцінуха“; калі ёй скажаш: „Адчыніся: „Гара Марцінуха“, то яна адчыніцца, а калі скажаш: „Зачыніся „Гара Марцінуха“, то яна зачыніцца; даведаўся, што у тэй гары ёсьць нязьлічаныя клады золата і што гэтыя клады ёсьць іхнія клады.

Пасядзеў, пасядзеў Марцін — гэтак звалі малодшага сьляпога брата — пад дрэвам, пачакаў пакуль не паляцелі дванаццаць малайцоў і, устаўшы, пачаў шукаць маленькага, цалебнага яблычка. Доўга, доўга шукаў сьляпы Марцін цалебнага, маленькага яблычка, але-ж усёткі, нарэшці, знайшоў. Памазаўшы ім свае сьляпыя вочы ён ізноў ўбачыў увесь сьвет,—ды ўбачыў гэтак, як ня бачыў ніколі.

Убачыўшы ўвесь сьвет, пайшоў Марцін шукаць „Гару Марцінуху", аб якой гутарылі дванаццаць саколаў. Доўга ці коратка хадзіў Марцін по беламу сьвету; у канцы канцоў падходзіць да тае гары, аб якой гутарылі дванаццаць сакалоў.

„Адчыніся „Гара Марцінуха", кажа, падыйшоўшы да яе, Марцін,— гара адчынілася. Увайшоўшы ў сярэдзіну, кажа ізноў: „Зачыніся, „Гара Марцінуха" і яна зачынілася.

Перад вачыма беднага Марціна ляжалі цэлыя залатыя горбы. Гэта былі чырвонцы. Набраўшы ў кішані, за пазуху, у торбу, напхаўшы ўсюды, дзе толькі было можна, ён падыйшоў да выхаду. „Адчыніся, „Гара Марцінуха", сказаў Марцін—гара адчынілася.

Вышаўшы на волю Марцін направіўся да хаты. Удома беднаму Марціну вельмі захацелася пахваліцца сваёю здабычаю перад скупым, багатым братам. Паслаўшы малодшую дачку да багатага брата, Марцін наказаў ёй: „Глядзі, калі прыдзеш, то скажы: дайце шаснастку грошы мерыць.

Ня верыцца багатаму, скупому, завіднаму старшаму брату, Ігнату, што сьляпы брат яго, Марцін, гэтак разбагацеў.

Адсылаючы назад шаснастку, Марцін засадзіў некалькі чырвонцаў за абручы, наказваючы дзеўчыне: „Глядзі, як толькі пераступіш цераз парог, то, як-бы неўзначай, абрані шаснастку, каб чырвонцы з-за абручоў павыкаціліся".

Бачачы, што чырвонцы пакаціліся з упушчанае шаснасткі, зайздросны Ігнат паверыў, што шаснастку бралі мерыць грошы.

Завідна стало яму і захацеў ён сам мерыць грошы шаснасткаю.

Прышоўшы да няшчаснага Марціна, завідны Ігнат пачаў пытаць: „Дзе ты набраў гэтулькі грошаў, — скажы, так і я пойду набяру?!".

„Там і там—адказвае Марцін—але наперад дай выкалю я табе вочы, як выкалаў ты мне".

— Добра—на, калі.

З выкалатымі вачыма пайшоў завідны брат шукаць сабе багацьця.

Падыйшоў да дубу, знайшоў маленькае цалебнае яблычко, якім памазаў сабе вочы. Ад дубу пайшоў у „Гару Марцінуху". Набраўшы золата колькі мог нясьці, Ігнат хацеў выйсьці на сьвет. Ад вялікае радасьці ён забыўся, як вучыў Марцін адчыняць вароты.

Стаіць Ігнат ды думае, але-ж ніяк ня можа спомніць, як гэта вучыў яго брат.

Доўга, доўга стаяў і ўсё думаў, але-ж ніяк ня мог успомніць. Гэтак стаяў ён да таго часу, пакуль не прыляцелі дванаццаць сакалоў. „Чаго ты сюда папаў?“ убачыўшы чужога чалавека, пачалі яны пытацца. „Гэта брат прыслаў мяне па грошы“. „Па грошы!“ як адзін закрычалі яны і з крыкам, шумам і сьвістам кінуліся на яго і праз пару мінут з завіднага скупога Ігната засталіся адныя голыя, белыя косьці.

**М. Птушка.**

# Народныя песьні.

I.

Дзякуй Богу, што вясна
прыйшла.
Вясна, красна; летца цёплае,
Дай-жа Божа, жыта добрае,
На карані караністае,
На саломку саламістае,
На каласы каласістае.
Вясна красна, што ты пры-
нясла?
Старым бабачкам на кіёчку,
Маладушкам па сыночку,
А дзяўчаткам па вяночку,
Малойчыкам па канёчку,
Па канёчку па вараным,
Па сядёлцу па залатым,

II

Што ў полі там мялееецца?
Ці ня бель-жа там бялееецца?
Ці ня макоўка чырванееецца?
Ды ня бель-жа там бялееецца,
Ні макоўка чырванееецца—

Дачка ў таткі красуецца,
Па зялёным полі ходзячы,
Кветкі, рожу зьбіраючы,
Атазваўся там мой татулька,
Атазваўся там мой родненкі,
Гуляй, гуляй, мае дзіцятка,
Аддам цябе замуж далёка:
За тры пушчы за драмучыя,
За тры рэчкі за цякучыя,
За тры кладачкі гібушчыя,
Дам табе двух праваднічкоў.
Старшэйшага брацішку нат-
косьнічкам,
Маладзейшую сястрыцу за
баярачку,
Брат з сястрыцаю дамоў
вярнецца,
А ты, дзіцятка, астанешся,
Й замужам нажывешся,
У вахвотку, ты наплачашся,
І нікому ні пажалішся,
Ні сьвёкару ні сьвякроўцы,
Ні дзевяру ні залоўцы.

Запісаў Настаўнік **Т. Катовіч** з Дзісьненшчыны
М. Н. Пагост.

II.

А было то ў лето, у лето—ні зімою,
У лето—ні зімою—летняю парою,
Салавей-пташкі ў садзе расьпявалі.
Галасочак тонкі ў садзе раздаецца
Мусіць, то мілы з мілай расстаецца.
Раставаліcь яны с самае паўночы
Гаварылі яны патайныя рэчы —

— „Куды, мілы едзеш, куды ад'ежджаеш?“
— „На каго, мой мілы, міне пакідаеш?“
„Пакідаю цібе на людзей, на Бога, —
„Вас на сьвеці многа, а мне — пуць-дарога,
„Ні стой перада мною, і ні лі сьлязою,
„Бо ўсе людзі скажуць што я жыў с табою!“
— „Ніхай сабе кажуць, я іх не баюся,
„Каго я любіла, з тым я расстаюся,
„Каго ненавіджу, таму дастаюся!“

Запісала **Н. Васіленя** ў в. Кулёх
з-пад Горадні.

III.

Ой клён кляніна, ты шырокая лісьціна,
Куды цябе ціхі ве́цер панясе́, панясе́?
Ой ці ў гору, ці ў даліну, ці назад на кляніну?
Ой ня ў гору, ня ў даліну, да назад на кляніну.

Маладая дзеванька, куды цябе твой бацютка аддае?
Ой, ці ў туркі, ці ў татары, ці ў турэцкую зямлю?
Ці ў турэцкую зямлю, ці ў шляхоцкую сямью?
— Ой ня ў туркі, не ў татары, ня ў турэцкую зямлю,
Ня ў турэцкую зямлю, ня ў шляхоцкую сямью.
Ой, там зямля крамяніста, ой, там сямья наравіста.
Там дарожкі няроўненькі, там бацюхна ня родненькі.
Прыйдзе ранак—ня збудзіць, пойдзе к суседу ды асудзіць.
— „Мая нявеста санлівая, мая нявеста драмлівая.
Сьпіць яна пад аконечкам, пакуль зыйдзе ясна сонейка.

Запісаў **Міколай Птушка.**
„Цiжыкі“.

---

# Успаміны аб „Горадзенскім Гуртку Беларускай Моладзі“.

Гл. № 3 (4) „Студ. Дум.“)

II.

З'ехаўшыся ў восені Г. Г. Б. М., першым чынам мусеў выбраць сабе старшыну, каторым у канцы быў выбраны сябра К. Калышко, гімназіст VIII-ае клясы.

— Пачаліся як і раней „лекцы“, сьпеўкі і вербаваньне новых сяброў.—У кастрычніку была наладжана малодшай сэкцыяй вечарына, на Гараднічанскай вул. ў памешканьні п. Э. Сівіцкай (дзе таксама найчасьцей адбываліся лекцыі і паседжаньні).—Ставілі сцэнічны абразок вершам „Пастушка“ (пераклад з польскага І. С) і жывыя абразы.

— Зараз пасьля гэтага пачалі думаць аб спэктаклю манючыся паставіць „У зімовы вечар“. Але-ж пераканаўшыся, што сілы за слабыя і добрага выкананьня нельга спадзявацца, пакінулі думкі аб спэктаклі і пастанавілі зрабіць калядамі ёлку для дзяцей у якой - небудзь вёсцы. Гэты намѐр споўніўся і 6 га студня 1912 г., у дзень Трох Каралёў, была наладжана за складкавыя грошы сяброў гуртка ёлка ў вёсцы Сэруцёўцы Сакольскага пав. Навадворскай парафіі. Апрача цукеркаў і т. п.—дзецям, было раздадзена старшай моладзі шмат календароў, кніжак, „Нашае Нівы, і „Беларуса“. Пасьля Каляд праца пайшла звычайным шляхам. — Толькі неяк перад Вялікаднямі малодшая сэкцыя йграла камэдыйку „Страхі“ (пераклад з польскага Л, С.), а перад выездам „на лета“ распрацавалі праграму „летняй працы“.

Сабраўшыся ў восені 1912 году гурток спаткала неспадзяваная навінка. Кіраваўшы да гэтай пары гуртком кс. Ф. Грынкевіч, парваў цяпер з ім усялякія зносіны; ці гэта пад уплывам прасьледаваньняў з боку вышэйшага каталіцкага духавенства, ці дзеля перамены ўласных поглядаў, але-ж, адным словам, перастаў зусім цікавіцца доляй гуртка. Гэтае здарэньне адбілася вельмі сумным рэхам у душах старшай моладзі. Ня дзеля таго, што яна не пачувалася на сілах працаваць далей самастойна, але ж таму, што гэта было першае адступленьне і то з боку кіраўніка і арганізатара. Паміма волі пачалі сябры неяк падозрана глядзець і адзін на аднаго ня веручы балей ў шчырасьць і трываласьць уласных поглядаў...

Хутка, аднак, страхнулі з сябе гэтую прыбітасьць і няпэўнасьць і пад кіраўніцтвам лепшых сваіх сілаў з падвойнай энэргіяй ўзяліся за працу.

Праектаў было шмат. Не апускаючы лекцыяў з сярэдняй і малодшай сэкцыямі, папаўнялі бібліятэку і тэатральны рэквізыт; чыталі і разьбіралі новыя творы беларускіх пісьменнікаў, а час ад часу нікаторыя з сябраў прыносілі на „лекцыі“ і свае ўласныя творы. — На запускі адбыўся невялікі спэктакль. Ставілі „Міхалка“ і „Варажба цыганкі“ (пераробка з польскага Л. С.), апрача таго жывыя абразы і дэклямацыі.

Праектаваная выстаўка хатніх вырабаў не наладзілася, затое пачалася энэргічная праца дзеля падгатоўкі матэр‘ялаў для аднаднёўкі.

Рэдакцыйная камісія, складаўшаяся з А. Зянюка, с. п. Язэпа Лявіцкага, Л. Сівіцкай, М. Бабрыкоўны і Ф. Лабенца (яны-ж і аўтары стацей) працавала шчыра і заўзята. І вось пад заслонай позьняй ночы на пазычаным шапіраграфе адбілі 50 экз. аднаднёўкі: „Колас беларускай Нівы“ (лацінікай). Абыймала яна 15 старонак фармату звычайнага аркуша пісомай паперы.

— Якая радасьць, можна сказаць, нават, шчасьце запанавала ў сэрцах ініцыятараў і рэдактароў, як угледзелі сваю працу! Зьдзейсьнены праект, вылітыя на паперу думкі ажывілі неяк і дадалі веры ў свае сілы.

Тут мушу ўспомніць стацьцю, надрукаваную ў часопісі „Крывіч" (№ 1 (7) год 1924) на стар. 64 пад загалоўкам: „Горадзенскі Беларускі Гурток 1913 г." (успаміны) — аўтар якой, няведамы мне, „Ян з-пад Ласосны" піша рэчы зусім нязгодныя з праўдай. Паміж іншым, ён піша: „Адзіным відомым дакумэнтам тагочаснай дзейнасьці Белар. Гуртка **пад духовым кіраўніцтвам кс. Грынкевіча, асталася аднаднёўка „Колас нашай нівы"—далей: „Прадмова, відаць, пісана рукой кіраўніка гуртка"...** — Нічога падобнага. Кс. Грынкевіч у той час кіраўніком гуртка ня быў і ім ня цікавіўся, а аб аднаднёўцы да часу яе паказаньня ў сьвет нічога ня ведаў,

У гэтай самай стацьці аўтар піша: „У 1913 г. ў Горадні група вучняў сярэдніх школаў залажыла „Беларускі Гурток"... у той час, калі Г. Г. Б. М. быў зарганізаваны ў восені 1909 г., а ў 1913, можна сказаць, дажываў свае апошнія дні. — Далей: „...утварыўся гурток, у аснову якога паложана была веравызнаўчая азнака. Гэта адпавядала характэру кіраўніка гуртка, які вызначаўся рэлігійным фанатызмам". І тут аўтар вельмі мыляецца. Праз увесь час істнаваньня Г. Г. Б. М. ніякія рэлігійныя пытаньні ня былі закрануты, ані сябрамі, ані кіраўнікам.—Сябрамі былі як каталікі, так і праваслаўныя (Пушкарэвіч, Дзядзевіч, Сасноўская і др.), праўда апошніх шмат менш за першых, але-ж гэта толькі таму, што яны былі больш зрусыфікаванымі, чым каталікі спалянізаваны.

Праўда, быў такі факт: (з лісту А. Зянюка з 19. X. 1913 году) „...паклікаў „нас" да сябе кс. Ф. Г—ч і радзіў нам зьмяніць крыху статут, лепш сказаць, дапоўніць. Апрача напрамку самаасьветнага дадаць пункт аб „самавыхаваньні". Мы згадзіліся. Адначасна пазнаем і апрацоўваем нашую мову, вучым геаграфію і гісторыю Беларусі далей. Зьбіраемся ў кс. В. Родзькі". — Паміма гэтага і цяпер ніякая „веравызнаўчая" азнака" не прабіваецца.

Характэрна, што піша далей А. Зянюк (тагачасны старшыня гуртка): „Малодшых я колькі разоў зьбіраў, але-ж з імі было надта слаба, бо кс. Халецкі (прэфэкт) сказаў у клясе, „што хто будзе хадзіць на „лекцыі" да А. З., то будзе мець зараз рэлігію па расейску". Але-ж кс. Х. ня толькі да малодшых „умяшаўся"!. Аднаго разу паклікаў мяне і „jak przedstawiciel Katolickiego kościoła prosił i radził" (словы кс. Х.) каб перастаць „agitować" дзеля таго, што гэта можа быць крыўдай для Р.-Каталіцкага Касьцёлу.

На мае довады проціў яго слоў ён паведаміў мяне, што гэтаго году да духоўнай сэмінарыі беларусаў (сьвядомых) прыймаць ня будуць.—Калі я сказаў, што гэта мала мяне абходзіць бо да сэмінарыі не кіруюся, кс. Х. пачаў траціць раўнавагу і скончыў гутарку радай — развязаць Гурток...

— І тады нат' былі мы „сольлю ў вачох". —

---

Вясной 1914 г. сябры Г. Г. Б. М. раз'ехаліся па хатах каб болей ў Горадню — не вярнуцца. Пачалася вайна і параскідала іх па ўсім сьвеці.

Бібліятэка і тэатральны рэквізыт пакінутыя ў Горадні — прапалі бязсьледна. А яшчэ раней дзякуючы несумленнасьці сэкратара С. Більміна прапалі ўсе дакумэнты: статут, пратаколы сходаў і т. д.

Цяпер, нажаль, астаўся толькі — ўспамін.

Л. С-Ш.

# Польскае студэнства на У. С. Б. у Вільні.

(Гл. № 1 (2) „Студ. Дум.").

Налева ад успомненых групаў стаіць ужо адна толькі арганізацыя. Арганізацыя Моладзі Нарадовай. Хаця гэта ўжо не правіца, аднак, у самым назове відзім эпітэт нарадовасьці, выбраны дужа няўдачна.

Сябры гэтае групы з колаў людзей з рознай партыйнай ахварбоўкай—гэтак ў Вільні,—абясьняецца гэта тым, што ў Вільні лявей няма ўжо ніякай арганізацыі. Ні моладзі з ідэалёгіяй сялянскіх партыяў, ні сацыялістаў ня бачым у Віленскім унівэрсытэце, як груп арганізаваных.

Сама А. М. Н., у пытаньнях сацыяльных даволі радыкальная. Розьніцца ад правіцы і сваімі адносінамі да нацыянальных меньшасьцяў. Перад усім А. М. Н. выступае проціў numerus clausus, — хаця высказваецца за байкот жыдоў на грунце эканамічным.

Беларусаў і Украінцаў прызнае за істнуючыя і жывыя народы.

Як немаль ўсе польскія партыі, хацела-б іх асыміляваць, але мо‘ ня пры помачы такіх брутальных і рэпрэсыйных спосабаў, якія відзіць ў жыцьці.

Дзеля-ж стасаваньня мэтадаў балей культурных прызнае, што трэба з Беларусамі і Украінцамі згаварыцца...

Аднак, адносіны гэтае арганізацыі да нас, як беларускае арганізацыі ў Вільні, даволі добрыя.

Падобна (?) на з‘ездзе А. М. Н., які адбыўся ў лістападзе ў Любліне прыняў рэзалюцыю, што узнае імкненьне Беларусаў і Украінцаў да незалежнасьці.

Калі гэта праўда, шчыра вітаем гэты зварот у поглядах на нас братняе нам польскае моладзі!

Адносна да ўплываў на тутэйшае польскае студэнства займае 3-яе мейсцы.

А. М. Н. вядзе найболей відную працу культурна-асьветную сярод сваіх сяброў.

---

Як бачым з вышэй пададзенага агляду, ніводная з віленскіх польскіх студэнскіх арганізацыяў — ад правых да левых — ня мае шчырасьці ў адносінах да нас, Беларусаў — усе яны жадалі-б духовай сьмерці Беларусам.

Разьняцца правыя ад левых тым, што калі правыя імкнуцца нясьці гэную сьмерць адкрыта рэпрэсыйна, — то левыя імкнуцца да гэтага нібы лагадней..· — „podstępnie“, хочуць паразумецца з намі гэтулькі, колькі гэта ім карысна.

На падставе некалькі гадовага досьледу мы пераканаліся, што усё віленскае польскае студэнства за выняткам лічаных асобаў займае дужа варожае і няпрыхільнае становішча ў адносінах да Беларусаў.

Гэта добра мы павінны сабе ўцяміць і зразумець, чаго мы, Беларусы, можам спадзявацца ад гэтага пакаленьня, якое ў хуткім часе выступіць на грамадзкую і палітычную арэну.

# ХРОНІКА.

**Ад рэдакцыі**: З прычыны летняга перарыву у акад. годзе часопісь наша у летнія месяцы выдавацца ня будзе.

— У 26. V. у Віл. Беларускай Гімназіі адбыліся выпускныя эгзамены. Матуры дасталі 19 чал. Беларускім абітурыэнтам як і раней уступ у польскі унівэрсытэт зачынены.

— 17. V. адбылося пленар. паседжаньне Ц. Б. Ш. Рады. Постаноўлена гэтак рэарганізаваць Вілен. Бел. Гім: будзе аснаўных 7 кл., 8-яж кляса будзе двайная: у аднэй будуць вучыцца на вучыцелёў, а у другой будуць прыгатавацца да казённай матуры.

— У гэтым 1925 г. мінаюць 20-я угодкі цаэтыцкае творчасьці найвялікшага беларускага паэта Янкі Купалы.

— У Ленінградзе 24 красавіка адбылося паседжаньне „Библиологического Общества“ пад старшынствам проф. А. І. Малейна пасвечанае памяці Д-ра Фран. Скарыны. Чытаў аб ім П. Сімоні. У паднятых на повалу рэфэрату дыскусыях прымаў удзел і проф. Карскі. У канцы Л. М. Шах-Бэронянц прачытаў сваю паэму аб Фр. Скарыне.

— 21. V. і 31. V. Урадам Бел. Студ. Саюзу былі саргапізованы 2 рэфэр., якія прачытала ў салі Віл. Бел. Гімн. п. Дубіцкая на тэмы: 1) „Жыцьцё і праца Robart'a Owen'a — бацькі Каапэрацыі“ і 2) „Сацыялізм і Каапэрацыя“

Рэдактар-Выдавец: **Адольф Зянюк.**